ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№12 (45) снежань 2014 год
CATHOLICNEWS.BY





## Чаму патрыярх Кірыл супраць сустрэчы з Папам Францішкам?

Стар. 2



## Як пякуцца аплаткі?

Стар. 5



## Чаму Касцёлу патрэбныя манахі?

Стар. 9

## Святы Шарбель: пакліканне і цуды

Стар. 10 – 11



## Каталіцкі святар уратаваў сотні мусульманаў у Афрыцы

Старонка 3



## Гутарка пра рэстаўрацыю ікон

Стар. 8

# Чаму патрыярх Кірыл супраць сустрэчы з Папам Францішкам?

■ а. Зміцер Чарнель, *рэдэмптарыст*

### Ватыкан і СССР

25 гадоў таму, 1 снежня 1989 года, у Ватыкане адбылася сустрэча Генеральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Гарбачова з Папам Янам Паўлам II. Міхаіл Гарбачоў стаў першым савецкім лідарам, які наведаў Ватыкан з афіцыйным візітам. Сустрэча стала пераломным момантам у дыпламатычных кантактах паміж СССР і Ватыканам і ў працэсе адраджэння Каталіцкай Царквы ў Савецкім Саюзе. Пасля гэтага кожны з прэзідэнтаў Расіі неаднаразова сустракаўся з Папам. Але за чвэрць стагоддзя, нягледзячы на рэлігійную свабоду і адсутнасць палітычных перашкодаў, Папу Рымскаму не ўдалося сустрэцца з кіраўніком расійскай Праваслаўнай Царквы. Разам з тым сустрэчы з іншымі праваслаўнымі патрыярхамі адбываюцца даволі часта.

### Папа Францішак шукае адзінства

Пра гатоўнасць і жаданне такой сустрэчы адкрыта заяўлялі і Ян Павел II, і Бэнэдыкт XVI. Нядаўна чарговы раз пра сваю гатоўнасць і спадзяванне выказаўся і Папа Францішак, вяртаючыся 30 лістапада з Турцыі, дзе ён быў з апостальскім візітам. Гэтая сустрэча была б важнай для ўсяго хрысціянскага свету сваім фактам, бо прадэманстравала б імкненне абодвух бакоў да аднаўлення адзінства. *"Адзінства – гэта шлях. Шлях, якім неабходна ісці. Шлях, якім трэба ісці супольна. Гэта духоўны экуменізм: маліцца разам, працаваць разам... Шмат спраў міласэрнасці ёсць, шмат працы... Вучыць разам... Ісці наперад разам"*, – сказаў Францішак. Аднак з боку Маскоўскага патрыярхата заўсёды ўзнікаюць розныя перашкоды, якія не дазваляюць гэтай сустрэчы адбыцца.



### Чаго хочуць украінскія грэка-католікі?

Як паведамляе Беларуская служба Ватыканскага радыё, прэс-сакратар кіраўніка Рускай Праваслаўнай Царквы дыякан Аляксандр Волкаў 2 снежня 2014 г. заявіў, што *"Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл шануе пазіцыю Папы Францішка па многіх праблемах, але для іх сустрэчы існуе перашкода. Ёй, на думку прадстаяцеля, з'яўляюцца дзеянні Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы".*

Агенства "РИА Новости" дадае, што пад пазіцыяй УГКЦ, якая перашкаджае сустрэчы з Папам, патрыярх Кірыл разумее *"падтрымку аднаго з бакоў палітычнага канфлікта ва Украіне і падтрымку раскольнікаў"*. Ён выказаў надзею, што *"голас рускай Царквы будзе пачуты, і ўцягванне УГКЦ у палітычны канфлікт і раздзіманне крызісу ва Украіне будзе зніжацца"*.

Такая пазіцыя агучваецца кіраўніцтвам Маскоўскага патрыярхата на працягу ўсіх апошніх месяцаў. З боку самой УГКЦ яшчэ летам быў дадзены адказ на падобныя закіды: *"Украінская Грэка-Каталіцкая Царква на працягу ўсіх месяцаў сілавога супрацьстаяння заклікае да пошуку шляхоў яго мірнага ўрэгулявання. Пры гэтым не адмаўляе права і абавязак грамадзян Украіны абараняць сваю свабоду і незалежнасць. УГКЦ разам з прадстаўнікамі іншых Цэркваў і рэлігійных арганізацый робіць канкрэтныя захады па аказанні гуманітарнай дапамогі пацярпелым жыхарам усходніх абласцей Украіны, нягледзячы на іх канфесійную і нацыянальную прыналежнасць. Мы рашуча асуджаем ўсякі гвалт супраць мірных жыхароў Украіны, у прыватнасці яе духавенства, незалежна ад таго, да якой канфесіі, рэлігіі або этнічнай групы яны належаць".*

### Масква ці Канстанцінопаль?

У той жа час апеляцыя РПЦ да падзей ва Украіне як да перашкоды для сустрэчы Папы і Патрыярха выглядае даволі надуманай. Яшчэ ў 2011 г. падчас Сінаксу (сустрэчы) чатырох усходніх

***Хто хоча, той шукае магчымасць, хто не хоча – прычыну***

патрыярхаў і арцыбіскупа Кіпра было падкрэслена, што Канстанцінопальскі патрыярхат ніколі законным чынам не адмаўляўся ад сваёй юрысдыкцыі над Кіеўскай мітраполіяй. Патрыярхі заклікалі паважаць і строга прытрымлівацца геаграфічных межаў сваіх юрысдыкцый у тым выглядзе, як яны вызначаны святымі канонамі і Томасамі аб заснаванні гэтых Цэркваў. Што датычыцца ўсёй Маскоўскай патрыярхіі і яе кананічных межаў, то яны вызначаюцца Томасам 1589 г., згодна з якім тэрыторыя цяперашняй Украіны не ўваходзіць у склад Маскоўскага патрыярхата.

### Хто ў каго забраў храмы?

Варта таксама нагадаць, што яшчэ зусім нядаўна перашкода для сустрэчы Папы з Маскоўскім патрыярхам была іншая. Да падзей канца 2013-2014 г. *"асноўнай перашкодай, – паводле афіцыйных выказванняў прадстаўнікоў РПЦ, – заставаўся неўрэгуляваны канфлікт паміж праваслаўнымі і грэка-католікамі ва Украіне, калі ў працэсе адраджэння структур Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы на Заходняй Украіне ад Маскоўскага патрыярхата былі адабраны практычна ўсе храмы"*. Аднак пад "адабранымі храмамі" на самай справе маюцца на ўвазе цэрквы, якія былі гвалтоўна адабраныя ў грэка-католікаў у 1946 г. у ходзе ліквідацыі ГКЦ і перададзеныя Праваслаўнай Царкве. Акрамя гэтага замоўчваецца факт існавання парафій Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы і Украінскай Праваслаўнай Царквы Кіеўскага патрыярхата, якія таксама валодаюць значнай часткай тых храмаў, што ў савецкі перыяд належалі РПЦ. Сярод іх ёсць і храмы, якія былі грэка-каталіцкімі да 1946 г.

Назіраючы за такой сітуацыяй, узгадваецца мудрасць: "Хто хоча, той шукае магчымасць, хто не хоча – прычыну". Святы Айцец робіць тое, што ад яго залежыць – застаецца адкрытым на любыя прапановы і варыянты дзеля таго, каб наблізіць адзінства. Такую ж адкрытасць і гатоўнасць мелі і св. Ян Павел II, і Бэнэдыкт XVI. Будзем спадзявацца, што Папа Францішак дачакаецца гэтай сустрэчы.

# Папа Францішак салідарны з украінскім народам



***"Папа Францішак салідарны з украінскім народам і моліцца за яго"*, – заяўляе спецыяльны прадстаўнік Ватыкана і Папы Рымскага кардынал Хрыстаф Шонбарн.**

*"Жаданні Папы відавочныя: неабходна рабіць канкрэтныя крокі для ўстанаўлення міру ва Украіне і выкарыстоўваць усе спосабы і меры, каб гэты мір наступіў ўжо сёння"*, – сказаў Шонбарн журналістам. Ён падкрэсліў, што знаходзіцца з візітам ва Украіне, *"каб перадаць салідарнасць Папы Рымскага з народам Украіны, які сёння пакуту".*

Па словах Шонбарна, Пантыфік *"штодня моліцца за Украіну, моліцца за ўцекачоў, якія пакутуюць, моліцца за параненых, моліцца за ўсіх, незалежна ад таго, якую рэлігію яны прадстаўляюць, незалежна ад нацыянальнасці, мовы, моліцца за ўсіх людзей Украіны".*

Адказваючы на пытанне, ці плануецца візіт Святога Айца ва Украіну, кардынал Шонбарн сказаў: *"Я думаю, што важна ісці запрасіць і спытаць у яго пра такі візіт"*. Пры гэтым святар падкрэсліў, што, на яго погляд, візіт Пантыфіка ва Украіну быў бы вельмі важным.

Хрыстаф Шэнбарн сустрэўся з прадстаўнікамі УсеўкраінскагаСаветацэркваў і рэлігійных арганізацый, сярод якіх не было прадстаўніка Украінскай праваслаўнай царквы (Маскоўскага патрыярхата).

*"Гэта было запланавана, гэта было абвешчана, і ўсе былі запрошаныя на гэтую сустрэчу"*, – адзначыў кардынал Шонбарн.

У сваю чаргу, кіраўнік Кіеўскага патрыярхата Філарэт сказаў журналістам, што яму невядомая прычына, па якой на сустрэчу з пасланцом Ватыкана не прыйшлі прадстаўнікі УПЦ (МП).

*"Мы не ведаем, чаму не было сёння на сустрэчы з кардыналам прадстаўнікоў Маскоўскага патрыярхата. Але яны павінны былі быць, таму што з'яўляюцца членамі Усеўкраінскага савета цэркваў"*, – сказаў Філарэт журналістам.

Паводле яго слоў, прадстаўнікі УПЦ (МП) упершыню не прынялі ўдзел у мерапрыемстве савета цэркваў.

*Інтэрфакс-Украіна*

# Каталіцкі святар уратаваў сотні мусульманаў у Афрыцы



**Нядаўна свет даведаўся пра подзвіг яшчэ аднаго каталіцкага святара. Гэтым разам з Цэнтральна-Афрыканскай Рэспублікі. Айцец Бернард Кінві за сваю дзейнасць на карысць міру атрымаў узнагароду Міжнароднай няўрадавай арганізацыяй "Human Rights Watch". Гэты святар, рызыкуючы ўласным жыццём, выратаваў ад смерці і пакутаў 1500 мусульманаў падчас страшэннага этнічна-рэлігійнага канфлікту, які разгарэўся ў сакавіку 2013 года.**

### Полымя вайны

Да нядаўняга часу ў ЦАР адсутнічалі рэлігійныя канфлікты. Насельніцтва ў гэтай краіне налічвае 4,5 млн чалавек, сярод якіх 15% – мусульмане, а астатнія – хрысціяне і анімісты. У сакавіку 2013 года мусульманскія паўстанцы захапілі ўладу і пачаўся крывавы пераслед хрысціянаў. У адказ на гэта хрысціяне арганізавалі народнае апалчэнне і пачалі пераследаваць мусульманаў. Паміж молатам і кавадлам апынуўся айцец Бернард Кінві са сваёй святарскай паслугай.

### Каталіцкі святар дапамагае мусульманам

Айцец Бернард з'яўляецца манахам ордэна каміліянцаў і апякуецца шпіталем Каталіцкай місіі ў Босімптыль, мястэчку на паўночным захадзе ЦАР. Аднойчы адбыўся напад апалчэнцаў на Босімптыль, і 80 мусульманаў было забіта. Айцец Бернард Кінві некалькі дзён хадзіў па ваколіцах, дзе адбылася трагедыя, і шукаў тых, хто выжыў. Яму ўдалося знайсці і ўратаваць некалькі соцень мусульманаў, сярод якіх – дзеці і жанчыны. Ён адчыніў дзверы каталіцкага храма і шпіталя для ўцекачоў-мусульманаў. Неаднойчы святар чуў на свой адрас пагрозы смерці з розных бакоў. Нападнікі не маглі зразумець: чаму каталіцкі святар ратуе ворагаў-мусульманаў?

*Нападнікі казалі: "Ойча, у нас свая работа, у цябе – свая. Мы іх забіваем, а ты іх хаваеш"*

Як сам ён прызнаецца, часам здавалася, што смерць ужо блізка. *"У некаторыя моманты да мяне падступаў страх. Але я калісьці склаў прысягу дапамагаць тым, хто ў патрэбе, нават коштам свайго жыцця. І вось надышоў момант выканаць прысягу не толькі на словах. У мяне не было іншага выбару, як толькі застацца і дапамагаць".*

Апрача ратавання жывых Бернард займаўся пахаваннем забітых. Гэта выклікала насмешкі нападнікаў, якія казалі: *"Ойча, у нас свая работа, у цябе – свая. Мы іх забіваем, а ты іх хаваеш".*



Некалькі месяцаў айцец Бернард не мог нармальна спаць. Ён баяўся за лёс сваіх падапечных, што вось прыйдзе дзень, калі нападнікі выканаюць свае пагрозы і нападуць на місію. Але крок за крокам, начамі святар пачаў вывозіць уцекачоў у суседні Камерун.

### Любоў перамагае

Айцец успамінае: *"Ноччу я выйшаў, каб дапамагчы ўцекачам пагрузіцца на машыны. На дарозе заўважыў 200 чалавек. Падышоў бліжэй і пабачыў, што жыхары-немусульмане дапамагалі мусульманам залазіць на машыны. У іх былі талісманы на шыях. Гэта былі апалчэнцы. Яны пачалі дапамагаць".* Падчас канфлікту, па словах айца Бернарда, спачатку апалчэнцы забівалі мусульманаў аднаго за другім. Але пазней іх стаўленне змянілася. Яны пачалі прывозіць уцекачоў у місію. Некаторыя хрысціяне ноччу хавалі мусульманаў у сябе дома, а потым прыходзілі да айца і прасілі для іх прытулку ў місіі.

Сітуацыя ў ЦАР усё яшчэ напружаная, але мірная. У многім дзякуючы такім людзям, як айцец Бернард, які, не маючы палітычнага ўплыву, вялікіх грошай і тэхнікі, сваім ахвярным подзвігам уратаваў сотні людзей.

*Паводле www.theguardian.com, www.hrw.org*

# Французы пратэстуюць каляднымі батлейкамі супраць агрэсіўнага секулярызму



**Хваля пратэстаў пракацілася па Францыі пасля таго, як Вышэйшы адміністрацыйны суд краіны забараніў батлейку, якую традыцыйна дэманстравалі ў памяшканні мэрыі горада Ла-Рош-сюр-Ён.**

Суд палічыў, што калядная батлейка ў мэрыі «пагражае рэлігійнай нейтральнасці» дзяржавы, аднак гэтае рашэнне выклікала адваротны вынік: батлейкі пачалі рабіць у мэрыях многіх іншых гарадоў, у якіх іх раней не ўсталёўвалі.

Многія кіраўнікі гарадоў і органаў мясцовага самакіравання заявілі, што сцэны з фігуркамі Дзевы Марыі, Святога Язэпа і малога Езуса ўсяго лішь адлюстроўваюць хрысціянскую глебу французскай культуры.

Апытанне, якое правяла газета Le Parisien, сведчыць, што 86% з 12 тысяч яе чытачоў хочуць захаваць батлейкі ў дзяржаўных установах.

Другі чалавек у апазіцыйнай правацэнтрысцкай партыі UMP Наталі Касцюшка-Марызэ, праўнучка Тадэвуша Касцюшкі, заявіла, што прыхільнікі аддзялення рэлігіі ад дзяржавы не павінны быць такімі агрэсіўнымі.

«Не трэба працягваць рэлігійныя войны войнамі за секулярызм*», – сказала яна.

Ла-Рош-сюр-Ён знаходзіцца на захадзе Францыі ў традыцыйна каталіцкай правінцыі Вандэя, якая ў часы Французскай рэвалюцыі паўстала супраць Парыжа ў значнай ступені з-за антыкаталіцкіх рэпрэсій новых уладаў. Падчас баёў паміж мясцовымі паўстанцамі і ўрадавымі войскамі горад быў амаль знішчаны.

Секулярызм – канцэпцыя, згодна з якой дзяржава і грамадства павінны існаваць асобна ад любога тыпу рэлігій і рэлігійнай веры.

*nn.by*

# Знойдзены факты пра сувязь Шэкспіра з Касцёлам

**У Сэнт-Омер, што ў паўночнай Францыі, выявілі невядомы раней асобнік першага выдання п'ес Шэкспіра, так званага першага фоліа*, апублікаванага ў 1623 годзе накладам 800 асобнікаў.**

Гэты факт сведчыць пра тое, што англійскі пісьменнік меў сувязь з Каталіцкім Касцёлам. Знойдзеныя ў мінулым месяцы старадрукі належалі каталіцкаму калегіуму. У ім у невялікім мястэчку недалёка ад Кале адукацыю атрымлівалі дзеці каталіцкіх уцекачоў з Англіі. Акрамя таго, папраўкі, зробленыя рукой, і каментары даказваюць, што гэтыя п'есы былі пастаўлены ў калегіуме.

Аб прыналежнасці Шэкспіра да катакомбавага Каталіцкага Касцёла ў Англіі ўжо даўно вядуцца дыскусіі. Адкрыццё ў Сэнт-Омер паказвае, што праз некалькі гадоў пасля смерці ён быў добра вядомы і паважаны ў асяродку каталіцкіх уцекачоў.

*Першае фоліа – тэрмін, які ўжываецца для абазначэння першага збору п'ес Уільяма Шэкспіра (1564-1616), выдадзенага Джонам Хэмінгам і Генры Кандэлам (працавалі ў шэкспіраўскай трупе) у 1623 годзе пад загалоўкам «Містара Уільяма Шэкспіра камедыі, хронікі і трагедыі. Надрукавана з дакладных і сапраўдных тэкстаў».

*pl.radiovaticana.va*



# "Ты – не адзін"

**Так называлася раённая дабрачынная акцыя, якая была прымеркавана да Дня інвалідаў. Гэты дзень (3 снежня) – дзень асаблівай увагі да людзей з абмежаванымі магчымасцямі – закліканы нагадаць, што мы разам павінны клапаціцца пра тых, хто мае патрэбу ў дапамозе. Менавіта гэты прынцып быў пакладзены ў аснову мерапрыемстваў, якія ладзіліся ў Глыбокім у межах акцыі на працягу пяці дзён.**

■ Рэгіна Марцынкевіч

## Дзень першы: "Шырэй круг!"

Распачалася дабрачынная акцыя "Ты – не адзін" раённым фестывалем творчасці дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі "Шырэй круг!", які праходзіў у першай гарадской школе. Да ўдзелу ў фестывалі (разам з групай падтрымкі) далучыліся 126 дзетак (вучні школ раёна і выхаванцы дзіцячых садкоў).

Усяго было падрыхтавана 20 нумароў мастацкай самадзейнасці, і кожны заслугоўваў апладысментаў. Гэта было цудоўнае свята, напоўненае спевамі, музыкай, сонечнымі ўсмешкамі дзетак, якое, без сумнення, запомніцца ім надоўга.



## Дзень другі: сустрэча за "круглым сталом"

На сустрэчу за "круглым сталом", якая праходзіла ў Цэнтры традыцыйнай культуры і народнай творчасці, прыйшло 15 бацькоў, у сем'ях якіх выхоўваюцца дзеці з абмежаванымі магчымасцямі. Іх праблемы (сацыяльныя і прававыя), просьбы выслухалі і прынялі да ведама (хочацца спадзявацца, па магчымасці пастараюцца дапамагчы) спецыялісты Упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне насельніцтва, карэкцыйнага цэнтра, аддзела адукацыі, кіраўнікі некаторых арганізацый і прадпрыемстваў горада.



## Дзень трэці: "Сэрца на далоні"

Да Дня інвалідаў жыхары псіханеўрала-гічнага дома-інтэрната падрыхтавалі агляд-конкурс мастацкай самадзейнасці "Сэрца на далоні". Да агляду далучыліся і работнікі інтэрната. Усяго было на тым канцэрце: і жартаў, і песень, і гумару, і лірыкі. Удаўся і спектакль, які з по-




спехам дэбютаваў на сцэне дома-інтэрната. Адкрыўшы свае сэрцы, гэтыя людзі шчодра дарылі прысутным аптымізм, бадзёрасць, сваю любоў да жыцця.

***

У той жа дзень у межах раённай дабрачыннай акцыі ў Цэнтры традыцыйнай культуры і народнай творчасці адкрылася выстава работ людзей з абмежаванымі магчымасцямі "З верай, надзеяй і любоўю". Свае працы даслалі на выставу жыхары псіханеўралагічнага дома-інтэрната, навед-вальнікі аддзялення дзённага прабывання для інвалідаў ТЦСАН, дзеткі з карэкцыйнага цэнтра.

Тут было ўсё: бісерапляценне і аплікацыя, вышыўка і вязанне, малюнкі, саломапляценне, разьба па дрэве... Некалькі соцень работ, выкананых з любоўю, стараннем і вялікімі намаганнямі, радавалі, здзіўлялі, захаплялі, чаравалі, заслугоўваючы самых высокіх адзнак.

## Дзень чацвёрты: "Сцежка здароўя"

Недалёка адышоў той час, калі паняцці "фізічная актыўнасць" і "інвалід" былі несумяшчальнымі. У апошнія гады спорт у людзей з абмежаванымі магчымасцямі набыў значную папулярнасць. Спаборніцтвы, якія ладзіліся ў той дзень падчас дабрачыннай раённай акцыі "Ты – не адзін" на базе раённай спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву, сабралі тры каманды: з Глыбоцкага, Пастаўскага і Докшыцкага раёнаў. Маладыя людзі на ўласным прыкладзе дэманстравалі прысутным тую радасць, якую прыносяць ім заняткі спортам, дапамагаюць адчуць сябе ўпэўненымі, надаюць сілы.

На "Сцежцы здароўя", якуюяныпрайшлідзякуючы групам падтрымкі, не было пераможцаў. Перамагла дружба. А закончылася спартыўнае свята падарункамі ад парафіяльнага "Карытас" і смачным абедам.

## Дзень пяты: "Мы – разам"

Апагеем раённай дабрачыннай акцыі стаў канцэрт мастацкай самадзейнасці "Мы – разам", падрыхтаваны ў асноўным людзьмі з абмежаванымі магчымасцямі. Выступленні самадзейных артыстаў літаральна зачаравалі ўдзячных гледачоў, якія не шкадавалі апладысментаў. Асабліварадаваліся,што выканаўцы атрымлівалі задавальненне ад свайго выступлення, што іх твары свяціліся шчасцем у зорны час на гэтай сцэне.

Сродкі, сабраныя на дабрачынным канцэрце, па словах дырэктара парафіяльнага "Карытас" Іны Вайцяховіч, пералічаны на рахунак раённага карэкцыйнага цэнтра на набыццё трэнажораў для дзетак, якія папраўляюць там сваё здароўе.

P. S. Так шырока і дастойна дзякуючы прадстаўнікам многіх службаў і арганізацый раёна (усіх немагчыма пералічыць), валанцёрам парафіяльнага "Карытас", святарам адзначылі сёлета Дзень інвалідаў у нашым раёне. Гэта была не толькі нагода сабраць разам людзей з абмежаванымі магчымасцямі, але і спосаб прыцягнуць увагу да праблем, якія турбуюць дадзеную катэгорыю насельніцтва. А праблем тут шмат.

– Хоць у раёне зроблена ўжо нямала, працаваць ёсць над чым, – сказаў у размове ксёндз Мечыслаў Янчышын. – І гэта справа ўсіх нас, усіх людзей добрай волі. А дзень, які пазначаны ў календары 3 снежня, – напамінак усім пра тое, што сярод нас жывуць людзі, якія заслугоўваюць не толькі спачування, але, найперш, дапамогі. Галоўнае, каб у нашых сэрцах было для іх месца.





# Як пякуцца аплаткі?



**Тысячы католікаў у Беларусі штодня прымаюць Св. Камунію. Перш чым з'явіцца на алтары і быць перамененымі ў сапраўднае Цела Езуса Хрыста, камунікантьі* і гостыі павінны быць выпечанымі. Гэтым, між іншым, займаюцца сёстры-назарэтанкі ў Навагрудку. Пра выпяканне аплатак і не толькі чытайце ў наступным матэрыяле.**

**кс. Віктар Місевіч**, *тэкст;*
**Марына Сінкевіч**, *фота*

У ваходзім у кляштар сясцёр-назарэтанак па ласкавым запрашэнні сястры Фаўстыны Крывіцкай, якая і займаецца выпечкай эўхарыстычнага хлеба. "Выпяканне камунікантаў для нас не новая справа, – кажа сястра. – Манахіні, якія тут працавалі да вайны, таксама гэтым займаліся. Засталіся нават спецыяльныя прылады з тых часоў. Але сёння ў нас сучаснае абсталяванне".

## Рэцэпт просты: толькі мука і вада

– Якога гатунку патрабуецца мука, каб выпякаць гостыі для Св. Імшы? – пытаюся.

– Найвышэйшага гатунку. Рэцэпт прыгатавання цеста для выпечкі вельмі просты: толькі мука і вада без ніякіх дадаткаў. Але гэта павялічвае адказнасць. Бо калі ў цесце знойдуцца нейкія іншыя рэчывы – фарбавальнікі ці кансерванты, – то Св. Імша, якую адпраўляе святар, будзе несапраўднай.

Слухаючы сястру Фаўстыну, прыгадваю сабе Кодэкс кананічнага права, які ў 924 каноне, другім параграфе гаворыць выразна: "Хлеб павінен быць чыста пшанічным і свежавыпечаным, каб не было ніякай небяспекі сапсаванасці".

## Аплаткі з хрысціянскімі сюжэтамі

**– Якім павінна быць цеста, каб выпечка ўдалася?**

– Яно павінна быць не занадта густым. Затым цеста заліваецца ў спецыяльную машыну. Закрываецца верхняя крышка. І трэба пачакаць дзве хвіліны. Як бачыце, трэба добра падлічыць аб'ём цеста. Бо калі яго зашмат, то па баках выходзяць так званыя "клюскі", якія трэба ачышчаць. Натуральна, перад выпечкай неабходна змазаць плошчу машыны алеем, каб цеста не прыставала да паверхні.

Сястра Фаўстына падымае верхнюю крышку машыны і дастае вялізны белы пласт з выявамі Езуса Хрыста і сцэнамі Божага Нараджэння.

– Перад тым, як выразаць камуніканты, яго неабходна насачыць вільготнасцю.

Сястра кладзе свежавыпечаны пласт, які пакуль што занадта сухі і крохкі, у спецыяльную шафу, дзе стаіць посуд з цёплай вадой. Там ужо ляжаць цэлыя стосы белага колеру. Праз некалькі гадзін прадукт памякчэе і яго можна будзе далей апрацоўваць.

**– А што наконт аплаткаў**? – пытаюся. – Для іх існуе які-небудзь асаблівы рэцэпт?**

– Не, рэцэпт той самы. У Беларусі традыцыйна папулярныя толькі белыя аплаткі без ніякіх дадаткаў. Хаця тут ужо няма ніякіх касцельных вымаганняў. Тэарэтычна мы маглі б выпякаць і каляровыя аплаткі, але няма такіх замоваў. Быць можа, гэта звязана з тым, што раней каляровыя аплаткі давалі толькі жывёлам. Але цяпер прыватнай гаспадаркі амаль няма, то і звычай гэты занепаў.

Сястра Фаўстына паказвае вялікую ёмкасць, дзе ляжаць тысячы гатовых камунікантаў. Яны выразаюцца з вялікага вырабу спецыяльнай машынкай-прэсам. Адным націсканнем таксама выразаецца і гостыя – круглы камунікант большага памеру, які святар трымае ў руках падчас малітвы кансэкрацыі на Св. Імшы.

Успамінаю, як шмат разоў мне даводзілася прымаць Св. Камунію і дзяліцца аплаткай за калядным сталом! Гэтыя рэлігійныя абрады такія блізкія нашаму сэрцу не толькі праз Божую ласку і дар супольнасці, але яшчэ і таму, што дзесьці ў кляштары клапатлівая жаночая рука выпякае белыя аплаткі, каб у Беларусі ўсім хапіла хлеба: чыстага, пшанічнага, эўхарыстычнага. Вялікі дзякуй нашым дарагім сёстрам за гэтую паслугу!

*Камунікант – круглы белы пшанічны хлеб. На Св. Імшы пераўтвараецца ў Цела Езуса Хрыста, якое вернікі спажываюць падчас абраду Св. Камуніі.

**Аплатка – белы пшанічны хлеб прамавугольнага выгляду. Традыцыйна абавязковы на калядным стале ў вігілійны вечар перад Божым Нараджэннем.



## Віншуем з Днём нараджэння і Днём анёла!

***Шаноўны ксёндз Адам Квяткоўскі!***

*Браслаўская касцельная супольнасць "Маці ў малітве" віншуе Вас з Днём нараджэння і Днём анёла.*

*Ад усяго сэрца жадаем Вам здароўя, шчасця, задавальнення ад душпастырскай працы, шчодрай Божай ласкі, апекі Маці Божай і святога Заступніка, радасці ў капланстве.*

*Мы вельмі ўдзячныя Вам за супольную малітву за нашых дзяцей і ўнукаў, за памяць, падтрымку і разуменне, за тое, што знаходзіце дарогу да кожнага сэрца. Таму і надалей хай Пан Бог, Які паказаў Вам дарогу жыцця, узнагароджвае за добрае і пакорнае сэрца, за павагу да кожнага чалавека, а Найсвяцейшая Панна Марыя няхай увесь час мае ў сваёй Мацярынскай апецы.*

*Нашы віншаванні і найлепшыя пажаданні таксама і Вашай маці. Здароўя ёй на доўгія гады і наша падзяка за выхаванне такога слаўнага сына і святара!*

## Віншуем з Днём нараджэння

***Пахвалёны Езус Хрыстус!***

*У нашай парафіі св. апосталаў Пятра і Паўла, што ў аграгарадку Дрысвяты, працаваў **кс. Віталь Галец**. Гэта адкрыты, шчыры, зычлівы чалавек, адданы святар, душпастыр глыбокай веры і духоўнасці, якімі ён сапраўды жыве, а не выстаўляе напаказ. Таму ўсе парафіяне заўсёды яго любілі і шанавалі.*

*16 снежня кс. Віталю спаўняецца 39 гадоў. Жадаем яму вялікага зямнога шчасця, моцнага здароўя, радасці, сонечных дзён, плённай працы, здзяйснення ўсіх мараў і задумак, толькі добрых людзей на жыццёвым шляху.*

*Жадаем Вам, дарагі кс. Віталь, ласкі і моцы ад Пана Бога для выканання пасланніцтва, якое Ён Вам даручыў. Няхай заступніцтва Багародзіцы – Маці святароў – напоўніць радасцю кожны дзень Вашага нялпростага служэння Богу і людзям.*

***Удзельнікі касцельнага хору аграгарадка Дрысвяты (Браслаўскі раён)***

Расоны

# Водгук на ліст

*Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*Прачытала ліст жанчыны А. з лістападаўскага нумара, якая чамусьці не захацела, каб пра яе ведалі. Калі б у маім жыцці не было такіх выпадкаў, то падумала б, што яна хлусіць. У нашай парафіі былі тры выпадкі, калі хадзілі жанчыны ў касцёл і раптам пераcталі. Пры сустрэчы спытала ў адной, чаму ў касцёле яе не бачна. Жанчына адказала, што ксёндз у казанні расказаў тое, пра што яна гаварыла на споведзі, толькі прозвішча не назваў. Відаць, яна расказала нешта такое, што ксёндз вырашыў папярэдзіць, каб іншыя так не рабілі. Я ёй і кажу: "То Вы ўвесь час хадзілі ў касцёл да ксяндза, а я не да ксяндза хаджу, а на сустрэчу з Богам, каб падзякаваць Яму за ўсё добрае, што маю". Другая жанчына адказала, што ёй не спадабалася размова, якую яна мела са святаром, таму і не ходзіць у касцёл. А трэцяя вырашыла не ісці ў касцёл на святую Імшу ва ўрачыстасць у працоўны дзень, бо там не будзе людзей. Я адказала ёй: галоўнае, што будзе ксёндз і Бог.*

*Я жыву за 6 км ад касцёла, таму муж возіць мяне на машыне кожную нядзелю і ў святы. З Божай дапамогай трымаю гаспадарку. У нас касцёл будуецца з першага каменьчыка, я заўсёды дапамагала па просьбе святара ў працы і ахвяраваннямі. Прыемна, калі падыходзіш да святыні і разумееш, што нешта і ты ўнёс у яе пабудову.*

*Ад усіх парафіянаў касцёла Язафата Кунцэвіча ў Расонах віншую ўсіх стваральнікаў газеты з вялікім святам Божага Нараджэння, жадаю моцнага здароўя і Божай дапамогі ва ўсім і заўсёды. Таксама віншуем з надыходам Новага года і жадаем Божага блаславення.*

*Мы, парафіяне, таксама хочам павіншаваць **ксяндза Вячаслава Барка з Днём нараджэння**, які ён адзначыць 6 студзеня. Жадаем кс. Вячаславу моцнага здароўя, поспехаў у працы, Божай дапамогі.*



кс. Вячаслаў Барок у пілігрымцы

*Ксёндз Вячаслаў у нас адпрацаваў 13 гадоў і зараз па вялікіх святах адпраўляе Імшу, а таксама дабудоўвае касцёл. За гэты час ён стаў нам як родны, вельмі шмат зрабіў для нас, парафіянаў, дзеткам арганізоўваў шмат гульняў, вазіў іх за мяжу. Дарослыя парафіяне, хто меў магчымасць і жаданне, аб'ездзілі паўсвету пад кіраўніцтвам кс. Вячаслава.*

***Часлава Васільева***

# Ліст удзячнасці з Чашнікаў

***Пахвалёны Езус Хрыстус!***

*Мы, вернікі парафіі Перамянення Панскага ў г. Чашнікі, выказваем вялікую ўдзячнасць усім супрацоўнікам газеты "Каталіцкі веснік" за змястоўныя матэрыялы пра Каталіцкі Касцёл. Заўсёды з захапленнем і вялікай цікавасцю чытаем усе артыкулы газеты – гэтай добрай весткі ў кожным доме!*

***Сардэчна віншуем усіх вас і ўсіх чытачоў газеты, нашага паважанага біскупа Віцебскага Алега Буткевіча, усіх ксяндзоў, клерыкаў, якія працавалі ў нашай парафіі і прыязджаюць да нас цяпер, ксяндза Аляксандра Барана з Новалукомля з надыходам вялікіх і радасных святаў Божага Нараджэння і з Новым 2015-м годам! Дасылаем усім найлепшыя пажаданні, зычым Божай ласкі і плёну на новыя доўгія гады!***

*Словы вялікай удзячнасці, шчодрай радасці і гонару, віншаванняў з нагоды цудоўных святаў дасылаем нашаму былому святару **кс. Анджэю Бульчаку**, які больш за ўсіх працаваў у нашай парафіі. У свята св. Андрэя прадстаўнікі нашай парафіі наведалі яго на новым месцы працы ў Паставах.*

***Шаноўны ксёндз Анджэй Бульчак!***

*Сардэчна віншуем, нізка кланяемся і дзякуем Вам за добрае сэрца, за залатыя і працавітыя рукі, за старанне і цярплівасць, за ўсе тыя цяжкасці, праз якія давялося прайсці, калі Вы будавалі наш прыгожы, утульны касцёл. З першых дзён Вашай душпастырскай працы ў нашай парафіі мы ўбачылі чулага, шчырага, адкрытага, добразычлівага чалавекасвятара, сапраўднага святара, святара ад Бога! Вы зрабілі шмат добрых спраў, учынкаў міласэрнасці дзеля нас, а самае галоўнае – пабудавалі касцёл на пустым месцы за такі кароткі час! А колькі сіл, часу, здароўя, матэрыяльных сродкаў было аддадзена Вамі дзеля гэтай высакароднай справы – ведае толькі Бог!*

*Прайшло больш за два месяцы, як Вы ад'ехалі ад нас, а ў памяці ўсплываюць тыя шчырыя словы падзякі, якімі Вас праводзілі ўсе парафіяне, і тыя кропелькі слёз з вачэй і малых, і старых. Надоўга застануцца ў нашай памяці і ў нашых сэрцах святло і цяпло Божай ласкі, якія свяціліся з Вашых вачэй. Вашы жывыя словы заўсёды кранаолі душы вернікаў, падтрымлівалі і напаўнялі іх чалавечай годнасцю.*

*Мы дзякуем Пану Богу за дар Вашага жыцця і за ласку спаткання з Вамі! Няхай Усемагутны Бог і надалей дапамагае Вам, ксёндз Анджэй, у ажыццяўленні планаў і задумак, дае Вам бясконцую крыніцу энергіі для самаадданага служэння Касцёлу і на карысць людзям!*



*Са шчырай павагай і вялікай удзячнасцю, вернікі парафіі* г. Чашнікі

# З пошты рэдакцыі

***Хвала Хрысту!***

*Звяртаюся ад імя вернікаў малітоўнай групы, якая існуе ў парафіі Духа Святога ў Віцебску.*

*Гісторыя ўзнікнення нашай малітоўнай групы Маці Божай Салетынскай пад назвай "Да Езуса праз Марыю" няпростая. Нашу парафію заснавалі айцы-салетыне, а менавіта кс. Анжэй Бочар, які цяпер працуе ў в. Далёкія Браслаўскага раёна. Ад заснавання наш касцёл насіў тытул Маці Божай Салетынскай. Кожны месяц 19 чысла ў касцёле праводзіліся набажэнствы да Маці Божай Салетынскай (Яна 19 верасня 1846 года аб'явілася ў вёсачцы Ля Салет, што ў Францыі, у Альпах, дваім бедным дзецям-пастушкам).*

*Пасля таго, як наш касцёл перайменавалі, мы пачалі гэтае набажэнства праводзіць у маёй кватэры, куды была перавезена фігура Маці Божай Салетынскай. Доўгі час маліліся ўтраіх, спадзеючыся, што з намі, які абяцаў, прысутны Пан Езус. Праз некаторы час наша група павялічылася да дзевяці чалавек. А 19 верасня з намі маліліся і сёстры з нашага касцёла – Наталля і Серафіна.*

*Наша малітоўная сустрэча распачынаецца зваротам-запрашэннем да Духа Святога. Потым – Вяночак да Езуса Міласэрнага і літанія ўслаўлення Божай Міласэрнасці, ахвяраваныя за нашага біскупа Алега. Затым прамаўляецца навэнна да Маці Божай Салетынскай, а на заканчэнне – малітва за ўсіх памерлых "Анёл Панскі".*

*Напрыканцы сустрэчы размова-вырашэнне на бягучы месяц адбываецца з кубачкам гарбаты за сталом.*

*Мы прынялі рашэнне несупынна маліцца за ворагаў усіх людзей добрай волі, асабліва за распаўсюджвальнікаў наркотыкаў і тых, хто распачынае войны, аб ласцы навяртання і ласцы веры для іх. Молімся таксама за ўсіх медыцынскіх супрацоўнікаў, молімся за моладзь і дзяцей. Бо ў сваім аб'яўленні Маці прасіла так нямнога: адзначаць дзень святаў, маліцца і з пашанай ставіцца да Пана Бога.*

***Рэгіна**, верніца парафіі Духа Святога ў Віцебску*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення Св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю Св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю Св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета "Каталіцкі Веснік" вул. Савецкая, 1 211800 г. Глыбокае Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на Св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 000 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую Св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч Віктар Мар'янавіч вул. Савецкая, 1 211800 г. Глыбокае Віцебскай вобл.*

### Хто адпраўляе Св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на Св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя Св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя Св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена Св. Імша) | |

## Калядны вечар

Святочны стол і сена пад абрусам,
Куцця, і водар смачных посных страў.
Дзень нараджэння Езуса Хрыстуса –
Такі чаканы для людзей настаў!

Аплаткаю падзелімся з усімі,
Аб чымсьці маем сёння шкадаваць,
Перапрасіць за крыўды і правіны,
Каб годна Вестку Добрую прыняць.

З любові, жалю, слова прабачэння
Пан Езус нараджаецца ў нас:
У нашых душах, сэрцах, нашых сем'ях
З хвіліны гэтай і на вечны час.

Услухаемся ў словы Евангелля,
Якія так узвышана гучаць.
Як мудрацы за Зоркай Бэтлеема,
Да храма пойдзем Збаўцу прывітаць.

У гэты дзень мы сэрцы паяднаем,
Пануюць хай любоў і дабрата.
З вялікім святам вас, парафіяне,
З Днём Нараджэння Езуса Хрыста!

***Марыя Януш,***
*агр. Крулеўшчына*



***

Людзі! Паглядзіце! Вось у яслі
Паклала Дзева Божае Дзіця,
Каб надзея, вера і любоў не згаслі,
А сталі светачамі нашага жыцця.

Людзі! Падхапіце! Заспявайце
Гімн анёлаў, што з вышынь гучыць.
Слаўным спевам Збаўцу прывітайце,
Маленькага, што ў ясельках ляжыць.

Людзі! Адчыніце Вашы сэрцы!
Радасць каб магла ў іх ўвайсці.
Сваё жыццё Валадару даверце,
Бо толькі з Ім лягчэй будзе ісці.

***Алена Татун***



# Да Бога – разам

## Ліст з Лынтупаў

**Гісторыя лынтупскага касцёла налічвае ўжо 555 гадоў.**

Першы драўляны касцёл пабудавалі ў 1459 годзе і надалі імя Апостала Андрэя. Пазней касцёл быў асвечаны ў гонар ушанавання Небаўзяцця НМП. У 1640-м годзе побач са святыняй узвялі мураваную капліцу святой Ганны. У 1908-м уладальнікам Лынтупаў панам Юзэфам Бішэўскім быў закладзены мураваны касцёл з каменю і цэглы. Капліца святой Ганны ўвайшла ў архітэктурны ансамбль новага касцёла і існуе да цяперашняга часу з правага боку ад галоўнага алтара. У ёй знаходзіцца цудатворны абраз св. Ганны XIV ст.

У 1914 годзе паўсталі над наваколлем белыя вежы прыгожага велічнага касцёла ў гонар св. Апостала Андрэя – апекуна Лынтупскай парафіі.

Падчас Вялікай Айчыннай вайны, 6 ліпеня 1944 года, немцы ўмацаваліся ў касцёле, а на вежах размясцілі кулямёты, якія не давалі наступаць стралковай дывізіі Чырвонай Арміі і такім чынам узяць Лынтупы. Хапіла б некалькіх залпаў мінамётаў, каб усё знішчыць, але камандаванне дывізіі пашкадавала гэты шэдэўр дойлідства. Былі пасланыя тры воіны-добраахвотнікі – Іпатаў, Галубкоў і Максімаў, – якія здолелі знішчыць агнявыя пункты праціўніка. Галубкоў загінуў і быў пахаваны ў брацкай магіле каля ўратаванага касцёла. За гэты подзвіг яму прысвоена званне Героя Савецкага Саюза пасмяротна.

Шмат выпрабаванняў выпала на долю касцёла ў гады ваяўнічага атэізму. Але дзякуючы Божаму Провіду і самаадданасці вернікаў святыня захавалася і не была апаганена. Нават арган не быў дэмантаваны. Такія арганы толькі чатыры ў Беларусі.

Касцёл у Лынтупах з'яўляецца помнікам архітэктуры. Гісторыя касцёла – гэта гісторыя народа, які шукае Бога. І ніякія варожыя сілы не могуць знішчыць таго, што даюць Крыж Хрыста і Божая ласка.

Дванаццаць гадоў служыць у нашай парафіі ксёндз-пробашч Павел Кнурэк, які шмат увагі надае яе духоўнаму адраджэнню. 14 кастрычніка 2014 года біскуп Алег Буткевіч прызначыў кс. Паўлу новую паслугу – экзарцыста. З нагоды новага прызначэння парафіяне шчыра жадаюць свайму святару духоўнай моцы і здароўя, заступніцтва Маці Божай і арханёла Міхала.

29 лістапада адбыўся парафіяльны фэст, прысвечаны святкаванню Дня апекуна парафіі св. Апостала Андрэя. У касцёле сабралася шмат вернікаў. Пасля св. імшы і ўрачыстай працэсіі вакол святыні ўсе пайшлі да вогнішча ў двары. Дзень выдаўся як на заказ: свяціла яркае сонейка, зіхацеў бялюткі снег, прыемны марозік пашчыпваў твар. Грэла і полымя вялікага вогнішча, і гарачая гарбата. Вясёлая музыка запрашала ў карагоды і патанчыць полечку. Колькасць сталоў з рознымі салодкімі прысмакамі, прыгатаванымі руплівымі гаспадынямі, адпавядала колькасці супольнасцяў, якія працуюць у парафіі. Іх у нас дзесяць: біблійнае кола, група вечнай Адарацыі, "Новы вобраз парафіі", "Маці ў малітве", ружанцовыя ружы, "Карытас", "Маргарыткі", духоўнае ўсынаўленне, хор, група цвярозасці.

Прадстаўнікі кожнай супольнасці выходзілі на сцэну і знаёмілі вернікаў з дзейнасцю групы, запрашалі знайсці сваё месца ў парафіяльных аб'яднаннях. Зацікаўленым уручалі лісты з інфармацыяй і сведчаннямі ўдзельнікаў.



Ксёндз-пробашч з добрай усмешкай хадзіў сярод прысутных, адказваў на пытанні, фатаграфаваўся з ахвотнымі, гутарыў з дзецьмі. Напрыканцы ён падзякаваў усім за актыўны ўдзел у святкаванні, нагадаў, што ў парафіяльных супольнасцях удзельнікі не з'яўляюцца ананімнымі чальцамі, што ўсе мы браты і сёстры, якіх Бог ведае па імені і якія патрэбныя адно аднаму. Мы разам змагаемся з цяжкасцямі жыцця і дзелімся радасцямі ў адной супольнасці, якая называецца Касцёл.

***Нэля Лось,***
*г.п. Лынтупы*

## Віншуем з імянінамі

***Пахвалёны Езус Хрыстус!***

*Ад імя ўсіх вернікаў катэдральнага касцёла Езуса Міласэрнага ў Віцебску хочам павіншаваць нашага* ***ксяндза-пробашча Адама Дынака*** *з нагоды імянін, якія ён адзначае 24 снежня.*

*Паважаны ксёндз Адам! Няхай добры Бог узмацняе Вас у выкананні гэтага нялёгкага святарскага служэння! Жадаем Вам моцнага здароўя, сілы, шмат радасці і вытрымкі. Дзякуем Вам за добразычлівасць, добрасумленнасць і шчырасць Вашага сэрца.*

***Вернікі парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску***

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Ян Сапель** *(в. Краснасельцы, Браслаўскі р-н)*, **Вераніка Абуховіч** *(в. Дунілавічы, Пастаўскі р-н)*, **Тамара Пашкевіч** *(Браслаў)*, **Марыя Матус** *(Валожын)*, **Генрыка Федарака** *(Скідзель)*, **Ірэна Дзешкевіч** *(Ліда)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Вацлаў Пашкевіч** *(в. Бігосава, Верхнядзвінскі р-н)*, **Яніна Дулінец** *(в. Савуткі, Шаркаўшчынскі р-н)*, **Даната Пачкоўская** *(в. Савуткі, Шаркаўшчынскі р-н)*, **Юрый Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Тацццяна Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Вольга Парневіч** *(в. Крулеўшчына)*, **Генавэфа Дубіловіч** *(в. Муляры, Пастаўскі р-н)*, **Аляксандра Гушча** *(в. Оцкавічы, Пастаўскі р-н)*, **Вільгельміна Барткевіч** *(в. Муляры, Пастаўскі р-н)*, **Яніна Сінкевіч** *(в. Муляры, Пастаўскі р-н)*, **Тацццяна Рамейка** *(в. Муляры, Пастаўскі р-н)*, **Камілія Емельянава** *(в. Дунілавічы, Пастаўскі р-н)*, **Ян Мікша** *(в. Цэнтральная, Іўеўскі р-н)*, **Ганна Жылевіч** *(в. Цэнтральная, Іўеўскі р-н)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Эвеліна Клімантовіч** *(в. Бярозаўка, Лідскі р-н)*, **Бажэна Пудзіноўская** *(Ліда)*, **Юзэфа Сінкуць** *(Ліда)*.

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша. **Жадаем усім Божага благаслаўлення! Вясёлых Калядаў і шчаслівага Новага году!**

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

Каталіцкі ВЕСНІК №12(45) снежань 2014 г.

# Гутарка пра рэстаўрацыю ікон

**У кожнага верніка ды і звычайнага турыста дух захоплівае, калі ён уваходзіць у прыгожую старажытную святыню. Такая прыгажосць была б немагчымай без руплівай апекі душпастыраў і працы адмыслоўцаў-рэстаўратараў. Прапануем чытачам Весніка гутарку са спадаром Ігарам Сурмачэўскім, для якога гісторыя – гэта не проста праца, гэта – пакліканне.**

■ **кс. Віктар Місевіч**, *тэкст і фота*



**– Спадар Ігар, адкуль у Вас такое жаданне даследаваць гісторыю праз абразы і скульптуры?**

– Гэта, напэўна, Божы дар такі. З дзяцінства памятаю, што заўсёды мяне цягнула да помнікаў мінуўшчыны. Памятаю, у Вязыні, адкуль я родам, я з іншымі дзецьмі гуляў на развалінах старога касцёла. Там былі такія вялізныя чорныя мармуровыя пліты. Яны мяне проста зачароўвалі. На жаль, цяпер там праходзіць хуткасная шаша Брэст – Масква.

**– Я так разумею, аднаго захаплення замала, каб рэстаўраваць гістарычныя помнікі. Дзе Вы спасцігалі гэтую навуку?**

– Я скончыў тэатральна-мастацкі інстытут па спецыяльнасці “Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва”. Па прафесіі я дызайнер інтэр’ераў.

**– Спадар Ігар, за час вашай працы Вам давялося пабачыць мноства твораў мастацтва. Скажыце, ці ёсць адрозненні, напрыклад, паміж беларускай школай жывапісу і рускай?**

– Безумоўна, ёсць. І гэта немалаважны факт. На жаль, я сустрэўся ў сваёй практыцы з тым, што беларускія іконы рэстаўраваліся расійскімі спецыялістамі, і была пашкоджана аўтэнтыка нашай іконы.

**– Што Вы маеце на ўвазе?**

– Беларускія абразы незалежна ад канфесійнай прыналежнасці ў сваёй большасці пісаліся з выкарыстаннем італьянскіх і галандскіх тэхналогій. У іх, апрача тэмперы*, прысутнічаюць яшчэ і тонкія лесіроўкі алейнай фарбай. Што да абразоў на драўлянай аснове, то ў нашых продкаў была папулярная арнаментальная разьба па ляўкасе**. У рускай традыцыі гэтага амаль не было ці арнамент быў вельмі просты. Калі не ведаць гэтых асаблівасцяў, то лёгка знішчыць арыгінальны пласт. А гэта ў рэстаўрацыі недапушчальна.

**– А як адбываецца рэстаўрацыя? Гэта, напэўна, карпатлівая праца?**

– Не толькі карпатлівая, але і шкодная для здароўя. Раней выкарыстоўваўся дыметылфармамід – хімікат без выразнага паху, але ў 200 разоў больш таксічны, чым ацэтон. Сёння выкарыстоўваюцца заходнія сродкі. Яны менш шкодныя, аднак таксама гэта хімія. Найбольш складанымі момантамі ў рэстаўрацыі з’яўляецца раскрыццё старога жывапісу ад пазнейшых запісаў і дубляванне палатна. Гэта робіцца ў выпадку вельмі сапсаваных абразоў, дзе палатно амаль знішчана часам. Каб уратаваць саму выяву, пад старое палатно падводзіцца новае, і яны праклейваюцца, а потым ужо аднаўляецца сам жывапісны пласт.

**– Рэстаўрацыя якога помніка Вам найбольш блізкая і дарагая?**

– Я горача ўспамінаю перыяд нашага супрацоўніцтва з біскупам Кірылам Клімовічам, былым пробашчам Глыбокага. Па яго просьбе я арганізаваў і за свае грошы правёў рэстаўрацыю крыжа, які цяпер ёсць у касцёле Св. Тройцы.

**– Якія парады Вы маглі б даць душпастырам па захаванні помнікаў мастацтва?**

– Найперш варта памятаць, што рэстаўрацыяй павінны займацца адмыслоўцы. У адной царкве быў цудоўны беларускі старажытны абраз XVII стагоддзя, які мясцовы бацюшка вырашыў аднавіць. Прыхаджане не знайшлі іншага выйсця, як даверыць справу мясцоваму “ўмельцу”. А той нічога лепшага не прыдумаў, як умацаваць абраз клеем ПВА. Клей прайшоў у ляўкас і знішчыў выяву. Абраз кавалкамі абсыпаецца. Яму ўжо нельга дапамагчы.

**– Бывае так, што абразы і крадуць...**

– Крадуць і спрабуюць прадаць за мяжу. У вёсцы Дубраўка ў савецкі перыяд, калі зруйнавалі касцёл, адна жанчына ўратавала абраз ад знішчэння і схавала яго на гарышчы. Ён даволі вялікі, метра паўтара вышынёй, і праляжаў схаваны амаль 70 гадоў. Пасля смерці бабулі ўнукі захацелі прадаць ікону, знайшлі нават пакупніка з Літвы, але праз мяжу пабаяліся везці. Спрабавалі прадаць у Маскву – марна. Мне пашчасціла перакупіць яго. Цяпер гэты шэдэўр знаходзіцца на рэстаўрацыі і ў хуткім часе будзе ўпрыгожваць галоўны алтар касцёла Святога Казіміра ў Маладзечне.

**– Спадар Ігар, падзяліцеся сваімі разважаннямі, чаму беларусам варта шанаваць сваю гісторыю?**

– Усе ведаюць выказванне пра тое, што без мінулага няма будучыні. Калі ж чалавек абыякава ставіцца да свайёй спадчыны, ён проста манкурт. Я ведаю гісторыю свайго роду з 1415 года. І ганаруся сваімі продкамі. Дзякуючы ім сёння ёсць я.

*Тэ́мпера (італ.: tempera, ад лацінскага temperare – змешваць фарбы) – фарбы, зробленыя на аснове сухіх парашковых натуральных пігментаў і / ці іх сінтэтычных аналагаў. Рэчывам, якое звязвае тэмперныя фарбы, служаць эмульсіі – натуральныя (разведзены вадой жаўток курынага яйка, сок раслін, рэдка – толькі ў фрэсках – нафта) ці штучныя (высыхлы алей у водным растворы клею, палімеры).

**Ляўкас (грэч. Λευκός белы, светлы, ясны) – у іканапісе – назва грунту, які ўяўляе сабой крэйду, размешаную на жывёльным або рыбіным клеі з дамешкам ільнянога алею.



**Цудатворны абраз Маці Божай Дзісненскай з XVI стагоддзя, у рэстаўрацыі якога прымаў удзел Ігар Сурмачэўскі. Абраз – шэдэўр беларускага сакральнага мастацтва.**

## Віншуем!

*Паважанаму **ксяндзу Леаніду Мозгелю** з нагоды Дня нараджэння (26 снежня) ад усёй нашай парафіяльнай супольнасці дасылаем шмат сардэчных пажаданняў. Няхай Езус Хрыстус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, бласлаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая няхай ахінае Вас сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае выконваць душпастарскую паслугу і шчодра адорвае сваімі дарамі.*

*Жадаем моцнага здароўя, душэўнага спакою, радасных дзён і толькі добразычлівых людзей побач.*

*Мы шчаслівыя і дзякуем Пану Богу за тое, што сустрэлі ў сваім жыцці такога душпастыра. А Вашай маме – вялікі дзякуй за сына святара.*

***З малітвай, вернікі з парафіі Маці Божай Фацімскай у Павяцці***

***Пахвалёны Езус Хрыстус!***

*Віншуем **кс. Генадзя Добрука** з вялікім святам Божага Нараджэння! Мы, парафіяне, вельмі любім яго і верым яму. Гэта зорка ў нашым жыцці. І ад шчырага сэрца жадаем яму здароўя, поспехаў у яго нялёгкай працы. Хай Добры Бог адорыць кс. Генадзя вялікімі Божымі ласкамі.*

***Парафіяне з в. Забалоцце***

***Ксяндзу Леаніду Мозгелю** з нагоды Дня нараджэння і Калядных свят дасылаем віншаванне і шчырыя пажаданні шмат сілы і стойкасці ў працы, натхнення, цярплівасці, надзеі, шчодрага плёну на ніве Пана і моцнага здароўя, каб Вы як мага даўжэй маглі цешыць нас сваёй прысутнасцю і паслугай.*

*Няхай усмешка заўсёды будзе на Вашым твары, а кожны дзень на нялёгкім святарскім шляху хай будзе напоўнены радасцю і спакоем.*

***З удзячнасцю, вернікі Лявонпальскай парафіі (Мёрскі раён)***

# Чаму Касцёлу патрэбныя манахі?

**У першую нядзелю Адвэнту, 30 лістапада, у Паўсюдным Касцёле распачаўся Год кансэкраванага жыцця. У свеце налічваецца каля 950 тысяч манахаў і манахінь, а таксама тых, хто належыць да свецкіх інстытутаў і індывідуальных форм кансэкраванага жыцця. Чаму Касцёлу патрэбныя манаскія супольнасці, вырашыў даведацца "Каталіцкі Веснік".**

***Ірына Грэйць***






**Брат Францішак, капуцын:**
– Манаскія супольнасці патрэбныя, бо гэта адказ на пакліканне з любові. Мэта кансэкраванага жыцця – несці Добрую Навіну, Уваскрослага Укрыжаванага. Пакліканыя асобы імкнуцца зрабіць сваім уласным спосаб існавання і дзейнасць Езуса, прыняць Яго стыль жыцця, пранікнуцца Яго духам. Імкнуцца прыняць Яго здзіўляльную логіку і сістэму каштоўнасцяў. Духоўная асоба разумее, што была знойдзена і пераменена Праўдаю і не можа гэту Праўду не абвяшчаць.

Манаскія супольнасці рэалізуюць пакліканне ў духу харызмату свайго заснавальніка. Безумоўна, сёння як ніколі людзі маюць патрэбу ў слове, але больш за ўсё – у сведчанні веры і надзеі.

Калі паглядзець і прыслухацца да людзей, то сістэма каштоўнасцяў абапіраецца на грошы і здароўе. Нават пажаданні, якія складаем, – «моцнае здароўе і многа грошай». Аднак рэдка пачуем: «жадаю Божага бласлаўлення». Таму вельмі важна, каб былі тыя, хто нясе Божую радасць.






**Валерый Бабpоўскі:**
– Касцёлу ў Беларусі патрэбныя манахі. З некаторымі я знаёмы: кармеліты, францішкане, салезіяне, марыяне. Я бачу, якую добрую духоўную фармацыю робяць для моладзі ў парафіях манаскія супольнасці. Маладыя людзі так добра духоўна напаўняюцца, і гэта вельмі прыемна. І малітва за Касцёл, за вернікаў вельмі патрэбная. Але таксама зараз у нас цяжкі стан у плане духоўнасці сярод моладзі, нават сярод тых, хто лічыць сябе католікам. Упэўнены, што манахі дапамогуць маладым людзям вырашыць шмат праблем і пытанняў. Дзякуючы духоўным асобам Касцёл будзе моцны.






**Анастасія Субач:**
– Адразу магу сказаць, што ў Касцёле павінны быць манахі, манахіні і манаскія супольнасці! Дзякуючы ім Касцёл развіваецца, а значыць, жыве. Іх праца і простая прысутнасць сярод вернікаў дапамагае жыць з Богам, дазнавацца пра Яго ўсё больш і больш. Хто ж, калі не яны, будзе знаёміць людзей з Богам, дапамагаць знайсці правільны шлях? Яны даюць вялікі прыклад іншым, як можна пражыць сваё жыццё, як яго рэалізаваць. Кожны з іх, адказаўшы шчыра на заклік "так", нясе Хрыста, дзеліцца Ім асаблівым чынам, так, як не зробіць ніхто з нас. Яны паказваюць сапраўдны прыклад шчырай малітвы. Дапамагаюць сваім прыкладам зразумець, што малітва – гэта сапраўдная зброя супраць выпрабаванняў. Сустрэўшы сапраўднага манаха або манахіню, пабываўшы ў манаскай супольнасці, адразу адчуваеш цяпло, шчырасць і радасць іх паклікання, забываешся пра свае цяжкасці, бо адчуваеш, як моцна цябе любіць Бог праз гэтых людзей, як Ён моцна абдымае.




***Ora et labora*** *(маліся і працуй)* – лацінская фраза, якая была дэвізам святога Бэнэдыкта Нурсійскага, які ў 529 годзе заснаваў манаскі ордэн бенедыктынаў, самы стары манаскі ордэн у Рыма-Каталіцкім Касцёле. Словы «Ora et labora» з'яўляюцца духоўнай асновай манаскага Статута, напісанага святым Бэнэдыктам. Гэтая формула з'яўляецца цэнтрам духоўнага жыцця айцоў-бэнэдыктынцаў, якія ў сваёй дзейнасці спрабуюць злучыць разам сузіральнасць, малітву і фізічную працу.






**Сястра Таццяна Гмыза, SJE:**
– "Не вы Мяне выбралі, а Я вас выбраў і паставіў вас, каб вы ішлі і прыносілі плод, і каб плод ваш заставаўся" (Ян.15,16). Манаскае пакліканне нараджаецца з таго, што Пан кліча чалавека. І гэта з'яўляецца вялікай таямніцай паміж Богам і асобай. Калі брат ці сястра складае манаскія шлюбы, то робіць гэта згодна са сваім пакліканнем, адказваючы на голас Хрыста. Манахі прысвячаюць сваё жыццё выключна Богу і таму з'яўляюцца для людзей знакам дзеяння Бога ў гісторыі чалавецтва. Жывучы ў вялікай сувязі з Хрыстом, законнікі ўзносяць радасці, праблемы, клопаты гэтага свету да Трону Бога, выпрошваючы патрэбныя ласкі. І таму кожная праца, якую можа выконваць свецкі чалавек (ці ў парафіі, ці дома, ці ў парафіяльнай супольнасці), мае іншы характар, таму што чыны манаха не належаць яму, а выключна Богу, таму што ён склаў сваё жыццё ў ахвяру Яму.






**Андрэй Далжонак:**
– Манаскія супольнасці адназначна патрэбныя. Гэта людзі малітвы, якія ахвяравалі сваё жыццё Богу, а таксама і нам з вамі. У свеце ёсць шмат манаскіх супольнасцей. Некаторыя вядуць амаль закрыты лад жыцця, але закрытыя для свету, але не для Бога. Гэта людзі, якія кожную хвіліну моляцца за нас. І тут мала сказаць "дзякуй", патрэбна малітва за іх, за пакліканні. Некаторыя супольнасці навучаюць дзяцей, забіраюць іх з лапаў цяперашняга злога свету. Бо калі не Касцёл, то, хутчэй за ўсё, вуліца з яе "каштоўнасцямі". І не мае рацыі той, хто гаворыць, што хрысціянскае жыццё сумнае. Адназначна – не! Яно вельмі насычанае, разнастайнае. І за гэтым усім ёсць найперш Госпад, а Яго пакліканыя на гэтай зямлі ствараюць для нас гэтае хрысціянскае асяроддзе, напоўненае перш за ўсё любоўю.

## Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў сацыяльных сетках

**Чаму Касцёлу патрэбныя манаскія супольнасці?**

**1.** Манахі асаблівым чынам моляцца за Касцёл і служаць Хрысту – 39 галасы.
**2.** Духоўная фармацыя ў манахаў вельмі моцная, такія пастыры патрэбны людзям – 72 галасы.
**3.** Манаскія супольнасці актыўна займаюцца сацыяльна-дабрачыннымі справамі – 12 галасоў.
**4.** Манаскія супольнасці перажываюць крызіс і знікаюць, на змену манаству павінен прыходзіць свецкі рух – 2 галасы.
**5.** Дыяцэзіяльныя святары ў сваёй паслузе выконваюць тое, што і манахі – 14 галасоў.

**Усяго – 139 галасоў**



Каталіцкі ВЕСНІК №12(45) снежань 2014 г.

# Святы Шарбель:



**Святы Шарбель. Упершыню я пазнаёміўся з ім у шапіку "Белсаюздруку", калі сярод "жоўтай" прэсы і выродлівых постсавецкіх часопісаў убачыў брашурку з абліччам манаха. Мая чалавечая і "прафесійная" святарская цікаўнасць заахвоціла купіць яе.**

**а. Андрэй Буйніч**

## Малітва да святога Шарбеля

**Святы ойча Шарбелю, ты адрокся ад мірскіх радасцяў і жыў у самотнасці і пакоры, у сваім скіце, нібы ў сховішчы. Цяпер жа, знаходзячыся ў славе нябёсаў, ойча, хадайнічай за мяне (нас), грэшнага (грэшных). Прасвятлі мой (наш) розум і сэрца, умацуй веру ды ўмацуй волю. Распалі ў мяне (нас) любоў да Бога і бліжняга. Дапамагай мне (нам) выбіраць дабро і пазбягаць зла. Абарані мяне (нас) ад ворагаў бачных і нябачных і дапамагай у штодзённым жыцці.**

**Тваімі малітвамі многія людзі атрымалі ад Бога дар ацалення душы і цела і знайшлі выйсце ў сітуацыях, па-чалавечы безнадзейных. Спаглянь жа на мяне (нас) з любоўю, і калі на тое ёсць Божая воля, выпрасі для мяне (нас) у Бога ласку, аб якой я (мы) пакорліва прашу (просім), у першую ж чаргу дапамагай мне (нам) нястомна, каб кожны дзень я (мы) абіраў (абіралі) шлях святасці, які давядзе мяне (нас) да вечнага жыцця. Амэн.**

Як я і думаў, гэта была "папса": чытачам прапаноўвалася прыкладваць малюнак нейкага старца да хворых месцаў. Я негатыўна стаўлюся да падобнага кшталту рэчаў, бо ў іх адыгрывае значную ролю хутчэй "магічная" свядомасць, чым асабістая вера чалавека ў Бога. "Магічная" свядомасць – гэта калі чалавек мяркуе прымусіць Бога зрабіць тое, што сам хоча мець, з дапамогай нейкага абраду, псеўдасакральных дзеянняў. Вера ж пачынаецца там, дзе чалавек усведамляе, што Бог – гэта свабодная Асоба, і Яго прымусіць нельга. Нягледзячы, аднак, на свой скептыцызм, я працягнуў чытанне.

## Шарбель – святы араб і ўніят

Уявіце маё здзіўленне, калі пасля некаторага вывучэння я зразумеў, што Шарбель – гэта сапраўды каталіцкі святы. І не проста каталіцкі святы, а іераманах, які належаў да Мараніцкай Царквы. Мараніцкая ж Царква з'яўляецца адной з Усходніх Каталіцкіх Цэркваў, г.зн., у шырокім сэнсе Шарбеля можна назваць уніятам. Вось што мне ўдалося даведацца пра святога араба.

Юсэф Маклуф – будучы святы Шарбель – нарадзіўся ў 1828 г. у вёсцы Бека-кафар, што на поўначы Лівана, высока ў гарах. Ён быў чацвёртым дзіцём у сям'і простых сялян Антуана і Брыгіты Маклуфаў. Гэтая сям'я была вельмі пабожнай, працавітай і аскетычнай. У доме Маклуфа асабліва шанавалі Найсвяцейшую Багародзіцу Дзеву Марыю. Усёй сям'ёй яны прыходзілі на Боскую Літургію ў мясцовую царкву, строга захоўвалі дні посту, абавязкова святкавалі хрысціянскія святы. Аднак 8 жніўня 1831 бацька Юсэфа памёр. Тады яму было толькі тры гады. Яго маці праз некаторы час выйшла замуж за Лахуда Ібрагіма, які неўзабаве быў рукапакладзены на парафіяльнага святара.

## Манаскае пакліканне

Юсэф ужо з дзяцінства быў непадобным да сваіх братоў і аднагодкаў. Пячатка глыбокай павагі да Бога заўсёды ляжала на яго дзіцячым твары, а маўклівасць стала надзвычай характэрнай рысаю. Юсэф ніколі не ўдзельнічаў у шумных хлапечых забавах і часта не па-дзіцячы маліўся Богу. Ён адшукаў на схіле гары вузкі грот, зрабіў сабе маленечкі алтар, паставіў там выяву Божай Маці, назапасіў ладану і шчыра маліўся. З тых восць часоў людзі і празвалі яго "святым". Гэты маленькі грот стаў першым скітам Юсэфа. Тут ён часта слухаў унутраны голас, які нястомна казаў:

> *"Вера ж пачынаецца там, дзе чалавек усведамляе, што Бог – гэта свабодная Асоба, і Яго прымусіць нельга"*

"Тваё жыццё належыць Хрысту. Ідзі за Ім!"

Юсэф аддаліўся ад аднагодкаў, ад сям'і, рыхтуючыся да важнага кроку ў сваім жыцці. І, нарэшце, прыйшоў той час, калі ён пакінуў усё: айчыма, маці, братоў і дзяўчыну, якая лічыла сябе яго нявестай. У 23 гады (1851 г.) ён рашуча пакінуў дом, нават не развітаўшыся з маці. Хлопец разумеў, што развітанне будзе цяжкім, і баяўся, каб яно не пахіснула яго рашучасць. У той час у Юсэфа Маклуфа не было нічога, акрамя гарачага, усёпаглынальнага жадання служыць Госпаду. Не было ў яго нават поснай аладкі, не было правадыра, які ведаў бы гэтую дзікую мясцовасць. Па дарозе ён еў карані раслін, лясныя ягады, дзікі мёд.

Свой шлях юнак скіраваў у манастыр Мейфукскай Багародзіцы. Але якім жа чынам яго адшукаць? Юсэф, аднак, верыў: калі Бог захоча, то абавязкова пакажа яму правільны шлях. Аднойчы, на ўзыходзе сонца, вандроўнік з вяршыні гары нарэшце ўбачыў мэту свайго падарожжа. У даліне сярод фруктовых дрэў з'явіліся стрэхі з чырвонай дахоўкі з востраканцовымі вежамі і крыжамі, і душа юнака напоўнілася духоўнай радасцю і глыбокай пашанай. У манастыры Юсэф звярнуў увагу на вінаградную лазу, якая ўпарта цягнулася ўверх і проста на даху распусціла лісце. "Вось так і я, – падумаў Юсэф, – буду ўпарта караскацца на самую вяршыню манаскага паклікання".

## Паслух у манастыры

У часы Юсэфа, як і сёння, у Ліване налічвалася прыкладна семдзясят мараніцкіх манастыроў, якія былі асяродкамі рэлігійнага і культурнага жыцця нацыі. Тут вывучалася не толькі тэалогія, але і неабходныя рамёствы, уводзіліся найноўшыя тэхналогіі апрацоўкі цяжкай, своеасаблівай ліванскай зямлі. Словам, у народзе манахаў лічылі сапраўднымі асветнікамі, якіх Сам Госпад паслаў да людзей.

Два гады строгага паслуху (навіцыяту) у Мейфукскім і Анайскім манастырах. Гэта сапраўды былі два гераічныя гады. Пасля Юсэфа пераводзяць у манастыр св. Марона ў Анайі. Сялянскі гарт і непарушная вера ў Госпада дапамагалі юнаму паслушніку вытрымліваць нечалавечае напружанне: па пяць-сем разоў на дзень прымаць удзел у багаслужбах, уставаць апоўначы на Паўночніцу, днём пасвіць на горных схілах статак, працаваць, пакуль не сцямнее, на вінаградніках... Тут ён выконваў цяслярскія працы, апрацоўваў скуры, насіў з горных схілаў велізарныя камяні і шліфаваў іх.

> *"Вось так і я, – падумаў Юсэф, – буду ўпарта караскацца на самую вяршыню манаскага паклікання"*

Малады паслушнік усё рабіў з вялікім захапленнем. Нягледзячы на суровы манастырскі распарадак, ён заўсёды мог знайсці час і для таго, каб вывучаць літургічныя спевы, паглыбляць свае веды праз чытанне кніг. Юсэф шукаў для сябе ўсё новыя і новыя заняткі, ніколі не скардзіўся ні на стомленасць, ні на цяжкія ўмовы пражывання ў келлі. Ва ўсім ён стараўся быць падобным да айца-настаўніка, да тых, хто быў для яго прыкладам. Асабліва цяжкім і напружаным выдаўся першы год паслуху. Аднак ні адзін манах не заўважыў, каб паслушнік у чым-небудзь праявіў слабасць...

## Святы Шарбель – цудатворца

У манастыры Юсэф Махлуф у гонар антыяхійскага пакутніка II ст., прымае манаскае імя – Шарбель (Сарбэлій). Гэта імя складаецца з каранёў слоў са значэннямі "цар" і "Бог". Першага лістапада 1853 года ён прымае манаскі пострыг. Пасля двух гадоў паслуху (навіцыяту) настаўцелі адпраўляюць маладога манаха ў семінарыю ў Кфіфан. Падчас навучання ў семінарыі Шарбель быў вучнем святога Німатулы Касаба Аль-Хардзіні. 23 Ліпеня 1859 г. брат Шарбель быў рукапакладзены ў святары.

## Цуды пры жыцці Шарбеля

Мы – людзі, ласыя на цуды, але тым не менш Госпад дапускае іх, каб яны сталіся для нас, слабых верай, адпраўным пунктам звароту, штуршком да новага жыцця ў Хрысце. Шмат цудаў аб'явіў Госпад праз святасць свайго вернага манаха Шарбеля. Няхай жа наша цікавасць да іх будзе не пустой забавай, але сапраўды пачаткам нашай асабістай духоўнай дарогі.

Вось адзін з такіх цудаў... У пэўны гарачы дзень Шарбель прастаяў на каленях дзве гадзіны, а потым пайшоў працаваць у полі. Падчас яго адсутнасці ў келлю прабраўся злодзей і скраў дзве талеркі, з якіх Шарбель еў. Калі манах вяртаўся ў манастыр, то ўбачыў нечаканую карціну: на сцежцы, дрыжучы ад страху, стаяў бедна апрануты чалавек, а ззаду і спераду яго атачылі дзве ядавітыя гадзюкі. Варта было гэтаму чалавеку толькі паварушыцца, як змеі, нібы па камандзе, падымалі галовы і злосна шыпелі. Шарбель убачыў на сцяжынцы свае талеркі і зразумеў, у чым справа. У гэтую хвіліну з'явіўся задыханы айцец-настаўцель, якому ўжо паведамілі аб крадзяжы.

– Дык гэта праўда? Трэба неадкладна выклікаць паліцыю.

– Прашу вас, ойча, нікога не трэба выклікаць!

Упершыню адважыўся запярэчыць старэйшаму малады паслушнік. "Паглядзіце, нават змеі не кранулі небараку, навошта ж яго арыштоўваць? Змеі ўжо правучылі яго. Ён гэта запомніць на ўсё жыццё".

– Але як нам адпудзіць гэ-

# паклікание і цуды

тых гадзюк?

– Дазвольце, ойча, я гэта зраблю.

Ён блізка падышоў да змей і ціха, але ўладна загадаў ім. Яны ж з шыпеннем шмыгнулі ў кусты. А злодзей, як апараны, кінуўся наўцёкі.

Быў і іншы дзіўны выпадак, звязаны з самотніцкім пакліканнем манаха. Шарбель хацеў жыць жыццём самотніка, але настаяцель вагаўся: блаславіць яго на гэты подзвіг ці не? Аднак неўзабаве настаяцель атрымаў знак звыш, які развеяў яго сумневы. Аднойчы, каб пасмяяцца, манах замест масла наліў у лямпу Шарбеля вады. Якое ж было яго здзіўленне, калі ноччу ён убачыў у яго келлі святло. У лямпе сапраўды была вада – сам настаяцель манастыра паспрабаваў яе на смак, бо манах-жартаўнік перапалохаўся і ва ўсім прызнаўся яму. У Шарбеля гэтая вада гарэла, як алей, але а ў келлі настаяцеля адразу ж згасла. Пасля гэтага выпадку 15 лютага 1875 года манаху дазволілі зачыніцца ў скіце. Шарбель аддаў манаскаму жыццю 47 гадоў, з іх 23 гады ён пражыў у скітце.

Былі і іншыя цуды. Але, на мой погляд, самым дзіўным сярод іх, які Госпад явіў нам праз святога Шарбеля, быў цудоўны дар малітвы і аскезы. Шарбель мог стаяць на каленях па чатыры-пяць гадзін. Размаўляць з ім у гэты час было бессэнсоўна: ён знаходзіўся ў стане глыбокага сузірання.

Узімку і ўлетку манах хадзіў у паношаным адзенні (пасля ён надзеў валасяніцу з металічным ланцугом – вярыгамі), насіў стаптаныя чаравікі, не апранаў галаўнога ўбору, не распальваў агню, каб сагрэцца, ніколі не еў мяса, не піў віна, спаў на вузкай каменнай пліце, а пад галаву клаў палена, загорнутае ў грубую тканіну. Ён ні ад каго не прымаў ні падарункаў, ні грошай. Ён заўсёды маўчаў і толькі тварыў нястомную малітву сэрца. Калі часам у яго пра што-небудзь пыталіся браты, то ён здзіўлена паводзіў вачыма і маўчаў.

## Цуды пасля смерці і кананізацыя

Смерць да пустэльніка наблізілася 16 снежня 1898 года, калі падчас служэння Боскай Літургіі а. Шарбель атрымаў інсульт. Яго разбіў паралюш. Восем дзён а. Шарбель знаходзіўся ў прытомнасці і змагаўся з жудасным болем. На сваім смяротным ложы ён не пакідаў малітвы, заклікаючы Бога кароткімі малітоўкамі: "Ойча ісціны, вось Сын Твой, ахвяра прыемная" (верагодна, гэта словы з маранiцкай Літургіі). Таксама ён шматкроць паўтараў імя Езуса, Багародзіцы, св. Язэпа і святых заступнікаў пустэльнікаў Пятра і Паўла. Напярэдадні Раства вялебны Шарбель скончыў свой зямны шлях.

***"Калі праз 50 гадоў пасля смерці Шарбеля адкрылі грабніцу, то не выявілі ніякага тлення"***

Аднак і пасля смерці прападобнага іераманаха Госпад захацеў, каб той паслужыў Яму для перадачы Яго ласкі жывым. Толькі дваццаць тысяч зафіксаваных аздараўленняў па малітвах да яго адбылося пасля ягонай смерці. Калі праз 50 гадоў пасля смерці Шарбеля адкрылі грабніцу, то не выявілі ніякага тлення. З нятленнага цела дзясяткі гадоў лілося дзіўнае міра, якое за гэты час да краёў напоўніла дзве труны. Усе гэтыя цуды давалі падставу лічыць а. Шарбеля святым.

Маранiцкі ордэн, да якога належаў айцец Шарбель, звярнуўся да Святой Сталіцы з просьбай аб яго кананізацыі згодна з правіламі Каталіцкай Царквы. З 1926 г. па 1928 г. прайшоў так званы "інфармацыйны працэс". Мясцовы біскуп збіраў дадзеныя аб святасці жыцця Шарбеля і пра цуды, здзейсненыя яго малітвамі. Уся дакументацыя была накіраваная ў Рым, і пачаўся так званы "апостальскі працэс". Ізноў былі сабраныя паказанні сведкаў, і ў чэрвені 1956 года стала афіцыйна пацверджана, што жыццё Шарбеля Маклуфа было сапраўдным подзвігам і вызначалася хрысціянскімі цнотамі. Потым былі разгледжаны і цуды, якія здзяйсняліся пры пасярэдніцтве Слугі Божага Шарбеля. Для беатыфікацыі патрабуецца неабвержны доказ як мінімум двух аздараўленняў, якія не паддаюцца навукова-медыцынскаму тлумачэнню. Без гэтых цудаў Царква не можа вынесці рашэння аб беатыфікацыі.

У лістападзе 1965 года былі афіцыйна прызнаныя невытлумачальнымі цудоўныя ацаленні манашкі Марыі Абель Камара з манастыра Двух Найсвяцейшых Сэрцаў, якая 14 гадоў пакутавала на цяжкую хваробу страўніка, і Іскандара Наіма Абэйда з Баатбада, што верагодным чынам зрабіўся відушчым пасля 13 гадоў слепаты. Абодва аздараўленні адбыліся па малітвах да Шарбэля Маклуфа. Такім чынам, 5 снежня 1965 года ў Саборы Святога Пятра айцец Шарбель быў залічаны да ліку блаславёных. А для завяршэння працэсу кананізацыі – апошняга этапу прызнання яго святым паўсюднай Царквы – неабходны быў доказ яшчэ аднаго цуду. Сярод шматлікіх цудаў для экспертызы абралі вылячэнне ад раку Марыям Асаф Авад з Амана. Яно і паслужыла апошнім сведчаннем для падпісання Паўлам VI дэкрэта аб кананізацыі.

***"Падчас кананізацыі манаха Шарбеля Папа Рымскі Павел VI назваў яго адным з найвялікшых святых XX стагоддзя"***

9 кастрычніка 1977 г. іераманах-маранiт Шарбель быў залічаны да ліку святых. Падчас кананізацыі гэтага ліванскага духоўнага падзвіжніка Папа Рымскі Павел VI назваў яго адным з найвялікшых святых XX стагоддзя.


Манастыр святога Марона ў Ліване, дзе пахаваны св. Шарбель.

# Сучаснае місіянерства

*“Хвала Хрысту! Раскажыце, калі ласка, пра сучаснае місіянерства. У якіх кірунках яно праходзіць, з кім і якім чынам?”*
*Наталля*

**На пытанне адказвае кс. Кірыл Бардонаў:**

– Сучаснаму місіянерству прысвечаны дэкрэт Другога Ватыканскага сабора «Ad Gentes». Згодна з гэтым дакументам, асноўная мэта місіянерства – «давесці іх [народы] да веры, свабоды і Хрыстовага спакою» (Ad Gentes 5). Дасягаецца гэта праз «прыклад жыцця і прапаведаванне, а таксама праз святыя сакраманты і іншыя сродкі ласкі». Хрыстос паслаў апосталаў абвяшчаць Евангелле ўсім народам, іх наступнікі няспынна працягваюць гэтую справу. Місіянеры абвяшчаюць Евангелле ў краінах, дзе хрысціяне не з'яўляюцца большасцю і дзе людзі яшчэ не чулі пра Хрыста. Гэта так званая першасная евангелізацыя – ad gentes (прапаведаванне народам). Місіянерства на гэтых тэрыторыях можа пачынацца ад забяспечэння людзям, часта вельмі бедным, годных умоў жыцця і атрымання імі пачатковай адукацыі.

Місіянеры перакладаюць Святое Пісанне і іншыя важныя тэксты на нацыянальныя мовы. У культуры кожнага народа яны прагнуць узяць і развіць тое, што не супярэчыць хрысціянскаму духу, каб зрабіць словы Езуса больш зразумелымі (інкультурацыя).

На місіянерскіх тэрыторыях павінны паступова ўзнікаць касцельныя структуры, у якіх несла б служэнне духавенства, што паходзіць з дадзенай тэрыторыі. Касцёл сурова забараняе прымушаць або падштурхоўваць каго-небудзь да прыняцця веры ці неадпаведнымі сродкамі прываблiваць да яе (Ad Gentes 13). На жаль, місіянеры часамі сутыкаюцца з непаразуменнямі і нянавісцю з боку прадстаўнікоў іншых рэлігій, крымінальных структур, варожых ідыялогій, часамі нават аддаючы за Хрыста сваё жыццё.

У сучаснасці ўзнікае неабходнасць новай евангелізацыі тых асяроддзяў, якія вельмі даўно сталі хрысціянскімі, але людзі ў іх адышлі ад веры або з'яўляюцца вернікамі толькі паводле назвы.



# Ці можна падчас посту жаніцца?



*“Хвала Хрысту! Ці можна падчас посту рэгістраваць шлюб у ЗАГСе?”*
*Юлія*

**На пытанне адказвае кс. Валерый Марціноўскі:**

– Калі пасля рэгістрацыі ў ЗАГСе адбываецца вянчанне ў касцёле, то ніякіх перашкод у заключэнні шлюбу нават у Вялікі пост няма. Аднак калі шлюб зводзіцца толькі да штампаў у пашпартах, то касцёл не ўхваляе такія дзеянні ні падчас посту, ні падчас звычайнага перыяду. Бо супольнае жыццё мужчыны і жанчыны без сакраментальнай ласкі з'яўляецца грахом. Грэх жа ёсць злом заўсёды. Вось такімі ўзнёслымі словамі ўводзіны да "Парадку цэлебрацыі сужэнства" апісваюць значэнне і годнасць гэтага сакраманту: *«Цесная супольнасць жыцця і кахання, у якой сужэнцы «ужо не двое, але адно цела», заснаваная Богам-Стваральнікам, кіруецца ўласнымі законамі і атрымала такое бласлаўленне, якога не змагла знішчыць віна першароднага граху. Таму гэтая святая сувязь залежыць не ад людской волі, а ад таго, хто заснаваў сужэнства і пажадаў адарыць яго асаблівымі дабротамі і заданнямі. Хрыстос, аднаўляючы стварэнне і ствараючы ўсё наноў, вярнуў сужэнству першаснае аблічча і святасць, каб тое, што злучыў Бог, чалавек не разлучаў. Для выразнага выяўлення непарушнасці сужэнскай дамовы і аднаўлення яе на ўзор свайго запавету з Касцёлам, Ён узняў яе да годнасці сакраманту”* (Уводзіны 4, 5).

Што да часу заключэння сужэнства, то касцёл у звычайных умовах дазваляе здзяйсняць гэты сакрамант ва ўсе дні, апроч Вялікай пятніцы і Вялікай суботы (паводле прадпісанняў Рымскага імшала, у гэтыя дні дазволена толькі ўдзяляць намашчэнне хворых і сакрамант пакаяння). Аднак калі вернікі, якія збіраюцца ўзяць шлюб, плануюць пасля здзяйснення сакраманту ў касцёле працягваць святкаванне праз забаўляльныя мерапрыемствы і застолле, то гэта нельга рабіць у дні Вялікага посту і ў Пакутны дзень на працягу года (пятніца).

# Ці з’яўляецца ананізм смяротным грахом?

*“Хвала Хрысту! Скажыце, калі ласка, ці з’яўляецца ананізм смяротным грахом? І ці можна прымаць Святую Камунію, зрабіўшы гэты грэх?”*
*Ігнат*

**На пытанне адказвае кс. Валерый Марціноўскі:**

– Найперш паспрабуем з дапамогай ККК (1854-1864) акрэсліць паняцце смяротнага граху і штодзённага. Смяротны грэх разбурае любоў у чалавечым сэрцы цяжкім парушэннем Божага закону, а таксама адварочвае чалавека ад Бога як канчатковай мэты і дабра, ставячы на месца Бога штосьці ніжэйшага ўзроўню.

Грэх лічыцца смяротным, калі выяўляюцца тры ўмовы адначасова:

1. Сур'ёзнасць матэрыі, якая вызначаецца 10 запаведзямі. Грэх можа быць у большай ці меншай ступені цяжкім (забойства цяжэйшае за крадзеж). Пад увагу бярэцца таксама становішча тых, хто пацярпеў ад граху (ад ананізму цярплю я сам, а ад сужэнскай здрады церпяць самі грэшнікі і іх сем'і).

2. Смяротны грэх патрабуе поўнай свядомасці.

3. Смяротны грэх патрабуе поўнай згоды (пачуццёвыя імпульсы, ціск асяроддзя, паталогія ў нейкай ступені абмяжоўваюць волю і свабоду).

Вынікам смяротнага граху з’яўляецца страта любові і асвячальнай ласкі. Калі няма жалю і прабачэння, то гэты грэх становіцца прычынай вечнага асуджэння.

Штодзённы ж грэх захоўвае любоў, але раніць яе, абражае.

Штодзённы грэх ёсць, калі:

1. Мы не захоўваем меры, якія прадпісаны 10 запаведзямі адносна лёгкай матэрыі;

2. Парушаем Божы закон адносна цяжкай матэрыі, але не з поўнай свядомасцю;

3. Калі парушаем Божы закон адносна цяжкай матэрыі, але не з поўнай згодай.

Вынікам штодзённага граху з’яўляецца аслабленне любові, супраціўленне скіраванасці ў бок цнатлівага жыцця і маральнага дабра. Калі штодзённы грэх застаецца без жалю, ён можа давесці чалавека да цяжкага граху. Штодзённы грэх не ставіць чалавека супраць Божай волі і Божага сяброўства, ён не разрывае саюзу з Богам. Яго можна выправіць чалавечымі намаганнямі і з дапамогай Божай ласкі. Ён не пазбаўляе чалавека асвячальнай ласкі, знаходзячыся ў якой ён можа прымаць Камунію.

Калі казаць пра грэх ананізму, то гэта цяжкі грэх. Тлумачачы вельмі коратка, можна вызначыць прычыны цяжкасці гэтага граху:

1. Наша сэксуальнасць як інтэгральная частка чалавека павінна быць накіравана на другую асобу;

2. Ананізм спрычыняецца да сканцэнтраванасці на сабе (эгаізм), у чым няма дару як аднаго з асноўных элементаў любові.

Таму не можна, жывучы ў гэтым граху, прыступаць да Святой Камуніі. Аднак калі грэшнік мае пастаяннага спаведніка, часта спавядаецца, спрабуючы з усіх сіл вызваліцца з гэтай грэшнай залежнасці, то душпастыр можа дазволіць прымаць Цела Хрыста. У дадзеным выпадку ў грэшніку будзе распазнана залежнасць, якая звязвае волю і свабоду дзеяння. А пры гэтым, як вышэй было зазначана, грэх будзе ўжо не смяротным, а штодзённым.

Мы неаднаразова чуем пра алкагалізм, працагалізм, наркатычную залежнасць. Сюды прыпісваюць таксама і сэксагалізм. У такім выпадку чалавек, калі хоча вырвацца з граху, але па прычыне працяглай гісторыі грахоўных практык і ў выніку аслабленай волі і свабоды ў дзеяннях не можа за адзін раз выйсці з такой сітуацыі, можа быць допушчаны спаведнікам да прыняцця Камуніі без папярэдняй споведзі. Падкрэслю яшчэ раз: толькі калі чалавек мае сталага спаведніка і калі гэты спаведнік, распазнаўшы сітуацыю, дасць дазвол, напрыклад, пасля наступнага падзення прыйсці, аднак, да Камуніі, то грэшнік можа з'яднацца з Эўхарыстычным Хрыстом. У кожным іншым выпадку ананізм – смяротны грэх, з якога трэба спавядацца перад прыняццем Камуніі.

# Біскуп Алег Буткевіч асвяціў помнік памяці ненароджаных дзяцей

Удзела

**У парафію Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, што ў вёсцы Удзела Глыбоцкага раёна, 7 снежня завітаў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч, каб удзяліць вернікам мясцовай парафіі сакрамант канфірмацыі. На свята сабраліся тутэйшыя і парафіяне з бліжэйшых вёсак. Бежмаванне прынялі некалькі дзесяткаў чалавек, сярод якіх было шмат моладзі.**

**Таццяна Смоткіна**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*



Напачатку каталікі сустрэлі біскупа вершамі, спевамі, словамі падзякі, пажаданнямі плённай працы на карысць Касцёла і кар'ернага росту. Іерарх у сваю чаргу выказаў удзячнасць прысутным, асабліва моладзі і мужчынам, якіх у такой колькасці мала дзе сустрэнеш у касцёле. Па словах яго Эксцэленцыі, вельмі прыемна бачыць поўны касцёл людзей, бо нездарма ён быў захаваны.

Біскуп Алег узгадаў той час, калі яшчэ не вучыўся ў семінарыі, і менавіта ў Удзеле быў першы этап усведамлення свайго паклікання. Падзякаваў айцам-францішканам, якія падтрымліваюць святыню ў належным стане, захоўваюць веру і праслаўляюць Бога.

У час святой Імшы адбыўся сакрамант канфірмацыі, пасля якога ўсім бежмаваным падаравалі крыжы і пасведчанні аб прыняцці сакраманту. Напрыканцы Літургіі ўсе вернікі, што прымалі сакрамант бежмавання, сфатаграфаваліся з біскупам на памяць.

Потым адбылося асвячэнне помніка памяці ненароджаных дзяцей. Ён быў зроблены і ўсталяваны на тэрыторыі касцёла намаганнямі святароў, вернікаў і мясцовых уладаў. Па словах пробашча парафіі Беззаганнага зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Удзеле Яраслава Банасяка, гэты помнік вырашылі паставіць у год кананізацыі Яна Паўла ІІ, які быў абаронцам тых дзяцей, каб не толькі мясцовыя, але і госці, турысты маглі паразважаць на гэтую тэму.

Адзін з элементаў помніка, крыж, з'яўляецца знакам перамогі Хрыста над смерцю. Ён замацаваны на скале, якая азначае, што трэба мацаваць сваё жыццё на Хрысце, а таксама вечных і трывалых каштоўнасцях. Скульптура маці Божай – абаронцы ненароджаных дзяцей, – якая ахоплівае разарваных дзяцей пры аборце, кажа пра тое, што кожная жанчына можа стаць абаронцай гэтых дзяцей.

Пасля асвячэння каля помніка былі пастаўленыя свечкі смутку ў выглядзе ліхтароў. Вернікі разышліся з думкамі і разважаннямі пра сваё жыццё і далейшы лёс. А многія і з з радаснымі пачуццямі, якімі надзяліў іх сакрамант канфірмацыі.

# Как уберечь детей от наркотиков?

## Советы психолога



**В последнее время мы все чаще слышим это слово – «спайс». Оно ворвалось в наш лексикон вместе с ужасающими историями о самоубийствах подростков.**

■ **Марына Ткач**, *социальный педагог, психолог*

К сожалению, в нашей стране с начала этого года из-за употребления «спайса» умерло уже несколько человек. И это заставляет задуматься над серьезностью данной проблемы. Поэтому наш разговор сегодня пойдет о том, что же такое «спайс» и как помочь родителям распознать и, что самое главное, вовремя начать действовать, если их ребенок попал в зависимость.

Итак, дадим краткое описание, что же такое «спайс.

**Спайс** (от англ. «spice» — специя, пряность) – разновидность травяной курительной смеси, в состав которой входят синтетические вещества, энтеогены (растения с веществами психотропного действия) и обыкновенные травы. Появились спайсы в начале 21 века в Европе и продавались под видом благовоний. Но, как известно, человек склонен все преобразовывать, и иногда это осуществляется не в лучшую сторону.

На сегодняшний день травяные курительные смеси («спайсы», «арома-миксы») – это синтетические курительные смеси, обладающие психоактивным действием, аналогичным действию марихуаны. Поставляются в продажу в виде травы с нанесенным химическим наркотическим веществом (синтетическими каннабиноидами). Именно это вещество вызывает зависимость, сравнимую по силе с внутривенными наркотиками, и может привести к внезапной смерти при передозировке и к развитию галлюцинаций.

Спайс формирует сильнейшую зависимость, далее происходит переход на более тяжелые наркотики, существует высокий риск развития онкологических заболеваний. Курение миксов часто вызывает приступы неконтролируемого страха, который может толкнуть на самоубийство или поспособствовать возникновению острого психоза.

«Спайсы» обычно расфасованы в пакетики из фольги или полиэтилена с субстанцией зеленоватого, зеленовато-желтого, зеленовато-коричневого цветов, возможно наличие разнообразных надписей и рисунков на пакетиках. Как можно видеть, данное вещество вовсе небезобидное и его употребление нельзя трактовать как баловство или подростковую прихоть.

**Давайте теперь рассмотрим признаки, которые могут указывать на то, что ваш ребенок попал в беду:**

■ у подростка появляется отстраненность, скрытность от родителей. Он перестает охотно делится тем, как прошел его день, как дела в школе, может часто и надолго уходить из дома или запираться у себя в комнате. Подобное поведение нельзя списывать только на подростковый возраст. Родителям нужно обязательно узнать причину этих изменений. Конечно, это не означает, что каждый немногословный подросток курит «спайс», но проявить определенное внимание все же стоит. Как говорится, «береженого Бог бережет»;

■ происходит потеря интереса к учебе, ребенок перестает посещать столь любимые ранее тренировки, кружки и т.д.;

■ начинает общаться с малознакомыми для вас и «странными» друзьями, в тоже время общение с прежними друзьями сводится до минимума;

■ ребенок становится раздражительным, вспыльчивым, часто возникает немотивированная агрессия, лживость и т.д.;

■ появляются беспричинные изменения в поведении: от бодрого, энергичного состояния до пассивности, вялости и безразличия ко всему, что его окружает. Такая же тенденция наблюдается и в настроении;

■ еще одним поводом, чтобы задуматься, могут послужить частые просьбы подростка дать ему денег, не объясняя при этом, на что они ему нужны;

■ иногда можно замечать у подростка необычное состояние: оно может быть похоже на опьянение, но без запаха алкоголя, нарушается координация движений, появляется нелепый смех.

**Можно выделить еще и такие признаки:**

● покраснение кожи и белков глаз;

● суженные или расширенные зрачки;

● отрешенный взгляд;

● сухие волосы, отекшие руки;

● осанка становится сутулой;

● речь растянутая, невнятная.

При этом хочется обратить Ваше внимание, что если ваш ребенок употребляет «спайс» или иные наркотики, как бы это ни парадоксально звучало, не бросайтесь в панику. Если это уже произошло, то нет смысла кричать и обвинять его. Для подросткового возраста характерно такое явление, как парадоксальная реакция. Ее суть заключается в том, что на маленький стимул идет реакция, а на большой стимул реакции нет. Что это значит? А это значит, что чем больше Вы будете кричать на ребенка, ругаться на него, тем меньше он будет идти с вами на контакт.

*...молитесь за своих детей. Не считайте это неважным!*

Попытайтесь держать себя в руках и не давать волю эмоциям, ведь вашему ребенку и так тяжело. Важно дать ему понять, что Вы его любите, несмотря на все его ошибки.

Первое, что можно и нужно сделать, – это сесть и спокойно обсудить вместе с ребенком сложившуюся ситуацию.

Не стоит также следить за подростком, пытаясь при этом уличить его. От этого будет мало пользы, это еще больше отдалит ребенка от Вас.

Конечно же, не следует забывать и о квалифицированных специалистах, которые окажут помощь в разрешении данной проблемы.

**Помните:** самая лучшая профилактика употребления наркотиков – это любовь, внимание и доверие к ребенку. Не ленитесь быть внимательными и чуткими родителями, и тогда подобная проблема не коснется Вашей семьи!

**И еще одна очень важная просьба: молитесь за своих детей. Не считайте это неважным!**

# Як правільна па-беларуску: "КАФЭ" ці "КАВЯРНЯ"?

■ **Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Абодва называныя словы сёння выкарыстоўваюцца ў моўнай практыцы. У кожным горадзе і нават мястэчку, у буйных населеных пунктах вясковага тыпу абавязкова ёсць месца, куды можна зайсці перакусіць, папіць кавы ці гарбаты, з'есці марозіва ці проста адпачыць, слухаючы прыемную музыку і пацягваючы з кубачка які-небудзь духмяны напой. І месца гэта часцей пакуль завецца *кафэ*. Слова *кафэ* французскага паходжання і абазначае, паводле "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы", "невялікі рэстаран, дзе прадаюць кофе, чай, закускі і пад" (Т. 2, с. 667). Да нас гэты французскі назоўнік трапіў праз рускую мову. Але ў беларускай мове даўно выкарыстоўваецца сваё адметнае слова з падобным значэннем – *кавярня*. Яно надзвычай удала ўпісваецца ў аналагічныя спецыфічна беларускія ўтварэнні, як, напрыклад, *друкарня, гарбарня, кнігарня, цяслярня* і г.д. Але ТСБМ (Т. 2, с. 572) падае гэты назоўнік з паметай *уст.* да *кафэ, чайная*. Прыблізна так лексема трактуецца і "Руска-беларускім слоўнікам» 1993 года выдання (Т. 1, с. 677) – адпаведнік да *кофейная, кофейня*. У "Тлумачальным слоўніку сучаснай беларускай літаратурнай мовы" (1996) назоўнік *кавярня* не фіксуецца зусім. Але ў "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С. Некрашэвіча (1925, с. 138) слова *кавярня* не мае ніякіх памет: "Кавярня ж. – кофейня, -ная". Дарэчы, у акадэмічным "Слоўніку беларускай мовы" (2012) таксама фіксуецца назоўнік кавярня (с. 324). Гэта значыць, што прызнаецца літаратурны статус згаданага адметнага назоўніка. Матывуецца ён словам *кава*, а не лексемай *кофе*, ад якой і ўтвараецца назоўнік *кафейня*.

Прадуктыўна выкарыстоўваецца слова *кавярня* і ў беларускім друку: *Іншы варыянт –* ***кавярні****. Бадай, самы танны варыянт – шукаць* ***кавярню*** *з так званым салатбарам* ("Звязда", 09.09.10); *У* ***кавярні*** *"Жар-птушка" адкрываецца чаргова танцавальны сезон* ("Наша ніва", 08.09.10); *Адзін з найстарэйшых храмаў Беларусі ператтворацьу* ***кавярню*** ("Чырвоная змена", 27.10.10); *Часам пасля заняткаў дзяўчаты могуць пайсці ў* ***кавярню****...*("Чырвоная змена", 10.11.10); ***Кавярня*** *са смакам Італіі* ("Вольнае Глыбокае", 30.06.11); *У амерыканскай* ***кавярні*** *будзе хутчэй светла, чым цёмна* ("Новы час", 28.01.11).

Беларуская мова чуйна рэагуе на ўсё новае, што паяўляецца ў жыцці грамадства. Таму стала папулярным і складанае слова *міні-кавярня*: *Нашы* ***мінікавярні****, што месцяцца на прывакзальнай плошчы, маюць другую катэгорыю* ("Звязда", 04.03.11); *Паблізу ёсць мноства магазінчыкаў,* ***міні-кавярняў*** *на розны густ* ("Чырвоная змена", 08.06.11). Як бачна, такія фразы гучаць сапраўды прыгожа і вытанчана.

Несумненнай папулярнасці слову *кавярня*, асабліва ў моладзі, дадала вядомая песня "Абсэнт", якую выконвае гурт "Крамбамбуля": *Усё нерэальна, / Нібыта ў сьне: / Начная* ***кавярня****, / Агні ў вакне...* Паводле нашых назіранняў, спалучэнне *начная кавярня* ў маўленні сучаснай моладзі мае своеасаблівы сімвалічны сэнс, адлюстроўваючы жаданне выкарыстоўваць прыгожыя беларускія словы і разам з тым весела бавіць час. Таму ў беларускай мове варта ўжываць свой адметны назоўнік *кавярня* і пазбягаць лексемы *кафэ* – галіцызма, пазычанага праз рускую мову. Па-беларуску лепш сказаць, напрыклад, *хадзем* ***у кавярню***, а не *ў кафэ*. Гэта не толькі ўпрыгожвае мову, але і чалавека, які ведае адметныя беларускія словы і тым самым міжволі прыцягвае да сябе ўвагу.

## Як зрабіць заказ?

Кнігі з рубрыкі "Газетная кнігарня", а таксама рэлігійную атрыбутыку можна заказаць, патэлефанаваўшы ў рэдакцыю па нумары **+375297365307**, альбо наведаўшы сайт Catholicshop.by. **Неабходна будзе паведаміць адрас свайго пражывання і выбраны тавар. Можна таксама даслаць ліст у рэдакцыю, дзе трэба напісаць свой адрас, нумар тэлефона, а таксама найменне і колькасць тавару.**

Выбраны тавар будзе дасланы поштай накладзеным плацяжом. **Пакупніку трэба будзе заплаціць за тавар і паштовыя выдаткі па перасылцы.**

Дарагія сябры, набываючы рэлігійную атрыбутыку і кнігі праз газету "Каталіцкі Веснік", вы дапамагаеце развіццю каталіцкай прэсы ў Беларусі! **Увага! Спяшайцеся набыць кнігі праз рубрыку "Газетная кнігарня". Іх колькасць абмежаваная!**

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## Віншуем!

*Шаноўны ксёндз-пробашч Раман Мурзіч!*

Са святам Вас! З Днём нараджэння
Віншуем са шчырай душою.
Хай Вашыя дні святога служэння
Адорыць Пан Бог супакоем.

Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя
Вядзе да новых здзяйсненняў,
Натхняе на добрыя справы,
Якія потым нашчадкі ацэняць.

А мы для Вас у малітве штодзённай
Просім у Пана Бога здароўя.
Яно неабходна для працы плённай.
Віншуем Вас, ойча, з любоўю.

***Удзячныя вернікі Параф'янаўскай парафіі***

***Пахвалёны Езус Хрыстус!***

*Віншуем нашага шаноўнага святара* ***кс. Паўла Кнурэка*** *з днём народзін, які прыпадае на 7 студзеня. Вельмі ўдзячны Пану Богу, што ў нашай парафіі амаль 14 год працуе сапраўдны пастыр, які ўласным прыкладам вызнання веры і абвяшчэннем слова Божага вядзе нас па дарозе Праўды. Нястомна і самаахвярна ён будуе духоўны падмурак нашай парафіяльнай супольнасці. Дзякуючы яго натхненню і прыкладу, на Божай ніве працуе святар, які паходзіць з нашай парафіі, а другі парафіянін атрымлівае фармацыю ў Пінскай семінарыі. Пан Бог адарыў нашага святара шматлікімі цнотамі: мудрасцю і ўважлівасцю спаведніка, адкрытасцю на дыялог з дарослымі і малодшымі, сціпласцю, справядлівасцю, адказнасцю, руплівасцю гаспадара.*

*Жадаем Вам, кс. Павел, Божага натхнення ў штодзённых справах, моцы і мужнасці ў выпрабаваннях, апекі Маці Божай. Атуляем Вас нашай любоўю і штодзённай малітвай.*

***З павагай парафіяне касцёла св. Андрэя, г.п.Лынтупы***

## Каляндар на студзень

**1 студзеня – Дзень Святой Багародзіцы Марыі. Абавязковае свята.**

Дзева Марыя лічыцца самай вялікай хрысціянскай святой. Марыя нарадзіла Езуса пасля беззаганнага зачацця, аднак і сама Яна была таксама плёнам беззаганнага зачацця. Гэты факт каталіцкія тэолагі разглядаюць як лагічную ўмову, якая падрыхтавала Яе да ролі Маці Збаўцы.

Тэалагічная дактрына Рыма-каталіцкага касцёла прызнае той факт, што Дзева Марыя з'яўляецца пасярэдніцай паміж Езусам Хрыстом і ўсім чалавечым родам, бо Яна – Маці Збаўцы, праз Яе прыйшла ласка да людзей.

**6 студзеня – Аб'яўленне Пана (Тры Каралі). Абавязковае свята.**

Аб'яўленне Пана – урачыстасць, якую Касцёл адзначае, успамінаючы ў гэты дзень пакланенне вешчуноў, што прынеслі Дзіцятку Езусу свае дары: золата, ладан і смірну. Касцельная традыцыя называе гэтых вешчуноў таксама каралямі (адсюль іншая назва свята — Тры Каралі), а іх пакланенне сімвалізуе пачатак Божага Аб'яўлення язычніцкім народам, прадстаўнікамі якіх яны былі.

Колькі дакладна было ў Бэтлееме вешчуноў, біблейская гісторыя не гаворыць, але свету вядомыя ўсяго тры дары-скарбы, і таму хрысціяне здаўна сталі лічыць, што вешчуноў было таксама трое. Пазней традыцыя, абапіраючыся на апакрыфічнае Евангелле IV ст., называе нават іх імёны – Каспар, Мельхіёр і Бальтазар – і падрабязна апісвае іх выгляд.

**11 студзеня – Хрост Пана.**

У нядзелю пасля ўрачыстасці Аб'яўлення Пана Касцёл адзначае свята Хросту Пана, якім па традыцыі завяршаецца перыяд Божага Нараджэння. Сёлета свята прыпадае на 11 студзеня.

У Евангеллі паводле Мацвея апавядаецца, што Езус прыйшоў з Галілеі над Іарданам да св. Яна, каб прыняць хрост ад яго. Але Ян спыніў Езуса, прамовіўшы: "Гэта мне трэба хрысціцца ад Цябе". Аднак Езус хацеў выканаць усё тое, што было справядліва. Калі Езус выйшаў з вады, нябёсы адкрыліся і Дух Святы ў аблічча голуба сышоў на Яго, а голас з неба прамовіў: "Ты Сын Мой умілаваны, Цябе ўпадабаў Я" (пар. Лк 3, 21–22).

Падзея Хросту Езуса стала таксама першым у гісторыі выпадкам аб'яўлення ўсёй Святой Тройцы ў бачных постацях (трынітарная эпіфанія), калі Бог Айцец прамаўляе, Сын Божы існуе ў чалавечай постаці, а Дух Святы з'яўляецца ў аблічча голуба.



## Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**28 снежня 2014 г. Лк 2, 22-40**

Езус – Першародны, ахвяраваны Богу. Езус – Бог і цалкам належыць Богу. У Ерусаліме, куды прынеслі Яго Юзэф і Марыя, Ён будзе потым ахвяраваны на крыжы. Сям'я Юзэфа і Марыі – гэта супольнасць, якая ўдзельнічае ў выкананні Божай волі. Гэта сям'я патрэбна Богу. Бог запланаваў так, каб праз гэту сям'ю да нас прыйшло збаўленне.

*– Ці разумею, што маё сужэнства, мая сям'я – гэта Божая справа?*

*– Чыю волю выконваем у нашай сям'і – сваю ці Бога?*

*– Ці паслухмяныя мы Божым законам?*

*– Што мы гатовыя ахвяраваць Богу?*

*– Ці ведаем, што толькі Ён мае добры план для нашай сям'і?*

*– Ці разумеем, што нашых дзяцей выхоўваем не для сябе, але для Бога?*

**4 студзеня 2015 г. Ян 1, 1-18**

Наша новае нараджэнне – гэта хрост. Бывае, што толькі ў дарослым жыцці мы пачынаем жыць верай і думаць па-новаму. Пачынаем думаць, як народжаныя з Бога. Езус – Слова. Калі мы прымаем Яго, то Ён дае нам моц, каб мы сталі Божымі дзецьмі. Каб жылі і думалі паводле Духа , а не толькі паводле цела.

*– Як я перажыў свята Божага Нараджэння?*

*– Ці прыняў я Езуса?*

*– Ці адчуваю я ў сабе свядомасць Яго прысутнасці?*

*– Ці запрасіў я Яго да свайго жыцця?*

*– Ці прыняў я Яго да сэрца ў Святой Камуніі?*

*– А можа, збіраюся ў бліжэйшы час прагнаць Яго са свайго сэрца?*

*– Ці прымаю Яго ў слове, якое Ён звяртае да мяне?*

*– Ці стараюся жыць па-новаму?*

*– Што Ён кажа ў маім сумленні?*

*– Ці паслухмяны я?*

*– Ці дазваляю Яму зрабіць з мяне Божае дзіця?*

**11 студзеня 2015 г. Мк 1, 7-11**

Боскасць Езуса аб'яўляецца падчас хросту ў Іардане. Ён прыняў хрост у Святым Духу. Уся Найсвяцейшая Тройца ўдзельнічае ў збаўленні чалавека. Бог прыйшоў да грэшнага чалавецтва, каб яго ўратаваць.

*– Ці памятаю, што Бог ёсць у маім сэрцы?*

*– Ці адкрываюся на голас Божага духа, які гаворыць у маім сумленні?*

*– Ці мяняю сваё жыццё паводле Божага голасу, які чую ў сваім сумленні?*

*– Ці раблю дабро і ці будую любоў, ідучы за Божым натхненнем?*

*– Ці клапачуся пра здароўе свайго сумлення, каб добра чуць голас Бога?*

*– Ці спавядаюся пастаянна?*

*– Ці адкрыты і праўдзівы я ў спавядніцы?*

*– Ці карыстаюся духоўным настаўніцтвам?*

*– Ці паслухмяны я Богу?*

**18 студзеня 2015 г. Ян 1, 35-42**

Апосталы пачулі сведчанне Яна і пайшлі за Езусам. Прызналі, што Ён – чаканы Месія, і пайшлі за Ім. Ён іх прыняў і паклікаў да будавання Касцёла. У той час яны яшчэ мала разумелі, хто такі Езус, але ўжо былі ў дарозе за Ім. Ён іх усяму вучыў.

*– Ці прызнаў я, што Езус – гэта Той, Каго я шукаю ў жыцці?*

*– Ці іду за Ім?*

*– А можа, толькі лічуся Яго знаёмым?*

*– Ці шукаю ведаў пра Яго?*

*– Ці хачу да Яго наблізіцца?*

*– Ці размаўляю з Ім?*

*– Ці слухаю Яго слова?*

*– Ці слухаю тых, хто мае блізкія адносіны з Ім?*

*– Ці шукаю Езуса ў супольнасці Касцёла?*

*– А можа, думаю, што я ўжо зразумеў Езуса і не спадзяюся, што Ён можа сказаць мне штосьці новае?*

*– Ці дазваляю Яму ўтаямнічваць мяне ў бязмежнай таямніцы Яго мудрасці?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Павел Кнурэк**

# Божае нараджэнне –2014

Віншаванне

**Шаноўныя Суайчыннікі, дарагія Браты і Сёстры ў Хрысце!**

Божае Нараджэнне – гэта свята, якое нясе з сабой цеплыню і спакой, так знаёмыя і блізкія сэрцу кожнага чалавека. Цяжка ўявіць сабе нашу гісторыю і культуру без гэтага Свята. І справа не толькі ў прыгожых абрадах, якія яму спадарожнічаюць. Святло Бэтлеемскай зоркі, якое калісьці апраменіла адну са шматлікіх тагачасных стаенак, і сёння хоча данесці нам тую самую Навіну. Бог не пакінуў свой народ, Ён прыйшоў, каб застацца і быць “Богам-з-намі”. А гэта сапраўды ўжо шмат: ведаць, што ты ніколі не застанешся адзін, што жыццё тваё заўсёды мае сэнс, што пакінуты, хворы ці састарэлы – ты Камусьці патрэбны. І што твае праблемы – гэта ўжо не твае, а Таго, Хто прыйшоў, каб аддаць за цябе сваё жыццё. Трэба толькі ў гэта паверыць. І калі знойдзецца Божаму Слову месца ў сэрцы чалавека, як калісьці ў Бэтлеемскай стаенцы, тады будуць у нас трывалыя сем’і, цвярозыя бацькі, сумленныя кіраўнікі, самаадданыя настаўнікі, адказныя ўрачы, а ў свеце не будзе больш войнаў і голаду.

Жадаю, каб мы сапраўды паверылі, што і сёння Бэтлеемская зорка свеціць над кожным з нас, як над той адзінай стайняй, у якой так моцна жадаў нарадзіцца Божы Сын.

**+Алег Буткевіч, біскуп Віцебскі**



## АБРАЗ З АНЁЛАМ АХОЎНІКАМ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Памеры — 10 Х15 см




## МАГНІТ «АНЁЛАК»




**Даступныя надпісы:** Happy birthday, God bless you, Sisters are forever friends, Friends Forever, Thinking of You, I love you.

**Колеры:** бэзавы, зялёны,блакітны, аранжавы, жоўты.

## КРЫЖ У МАШЫНУ




Крыж у машыну на ліпучцы. **Даступныя колеры:** блакітны, чорны і белы.

## Увага! Падпіска на першае паўгоддзе 2015 года!

**Дарагія сябры!**
Заахвочваем вас падпісацца на “Каталіцкі Веснік”.
Кошт падпіскі
на месяц – **5000 рублёў**,
на 3 месяцы – **15000 рублёў**,
на 6 месяцаў – **30000 рублёў**.
Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні “Белпошты”.

**Наш падпісны індэкс 63783**

Дарагія браты і сёстры! Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл.

*Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”*

## Калядны набор (металічны)




Калядны набор уключае ў сябе крыж на стол, два падсвечнікі, дзве свечкі і крапідла. Набор ставіцца на стол, накрыты белым абрусом, падчас калядный візітацыі святара. Крыж і падсвечнікі металічныя. Памер набора ў пакунку 14см х 22,5см.

## Калядны набор (драўляны)




Калядны набор уключае ў сябе крыж на стол, два падсвечнікі, дзве свечкі, посуд для святой вады і крапідла. Набор ставіцца на стол, накрыты белым абрусом, падчас калядный візітацыі святара. Крыж, падсвечнікі і посуд драўляныя. Памер набора ў пакунку 10,5см х 24см.

## БРЭЛОК З ВЫЯВАЙ СВ. КРЫШТАФА

Св. Крыштаф з’яўляецца апекуном кіроўцаў.










Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:**
рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:**
кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:**
Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:**
Марына Сінкевіч
**Карэктары:**
Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 8790

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3300 экз.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 17.12.2014 г. у 13.22

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621




Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ